ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 7 (2565)

19 лютага 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

САМЫ БУЙНЫ МАГАЗІН КРАІНЫ

## ЦУМ

Сёння неяк нязвыкла бачыць ЦУМ без будаўнічых рыштаванняў і платоў, з усімі адчыненымі для пакупнікоў заламі. Студзень — першы месяц, які цэнтральны магазін Мінска працаваў у рэжыме "без будаўнікоў". А рэканструкцыя, нагадаем, цягнулася сем гадоў. У выніку горад атрымаў сучасны гандлёвы комплекс еўрапейскага ўзроўню агульнай плошчай 24 тысячы квадратных метраў, 8,5 тысячы з якіх займае гандлёвая плошча, каля 6 тысяч квадратных метраў — складская. У параўнанні з старым будынкам плошча павялічылася ў два разы. Хаця магазін адкрыўся месяц назад, у некаторых падсобных памяшканнях яшчэ ідуць адздзелачныя работы.

Самым цікавым дырэктар ЦУМа Вальдэмар Юшкевіч лічыць тое, што, нягледзячы на рэканструкцыю, універмаг працягваў працаваць усе гэтыя гады. Да пачатку рэканструкцыі ў ЦУМе працавала больш тысячы чалавек, а калі б гандаль быў спынены, сабраць іх зноў было б вельмі праблематычна. Адразу пасля заканчэння работ у магазіне з'явілася 300 новых вакансій.

Дарэчы, сёння можна спытацца, ці з'яўляюцца праведзеныя работы рэканструкцыяй, бо ёсць усе падставы гаварыць аб узвядзенні практычна новага будынка — ад старога засталіся толькі калоны і фундамент. Пры будаўніцтве прымяняліся найноўшыя механізмы і абсталяванне. Падвесныя столі з Урала, дзверы з Варонежа, з'явілася новая гранітная падлога, эскалатары. Усё гэта было закуплена загадзя. Па словах дырэктара, сёння, улічваючы цяперашнія цэны, магазін не змог бы дазволіць сабе такія расходы. Тым больш, што з 1994 года будаўніцтва на 99 працэнтаў фінансавалася самім прадпрыемствам.

(Заканчэнне на 3-й стар.).




ПРАФЕСАР ІНА НАЗІНА

## ШЧАСЛІВЫ ЛЁС, САТКАНЫ З ПАРАДОКСАЎ

Сёлета ўзімку надвор'е стаіць такое пахмурнае, слотнае, нудлівае, што ў той дзень я нават здзівілася яркаму сонейку. Быццам забыла, што яно наогул існуе. Але нечакана зразумела, што такі яскравы сонечны дзень надзіва адпавядае майму настрою, бо ехала я да чалавека, па-сонечнаму яскравага і шчодрага, жанчыны, багата адоранай. Нядаўна яна, загадчык кафедры Беларускай акадэміі музыкі, прафесар Іна Назіна, адзначыла свой юбілей, і калі я апынулася ў яе кватэры, адразу заўважыла, што пакоі літаральна застаўлены мноствам букетаў. Сама ж гаспадыня юбілей адзначыла з "касцяной нагой", як яна з уласцівым ёй гумарам паведаміла. "Дапамаглі" гэтаму вечная мінская зімовая слізгата ды рамонтныя раскопкі ва ўласным двары. Але ж такі стан гаспадыні аптымізму не ўбавіў, проста яна пазначыла гэты факт як адзін з парадоксаў свайго жыцця. І дабавіла, што менавіта дзякуючы таму выпадку, перарабіла шмат працы за пісьмовым сталом, да якой раней з-за пастаяннай занятасці рукі не даходзілі.

Так, навуковая праца — гэта тое, чым жыве Іна Дзмітрыеўна, не заўважаючы розных побытавых дробязей, не прыдаючы ім вялікага значэння. Прага да навукі з'явілася яшчэ ў час вучобы ў Белдзяржкансерваторыі. Моцна захаплялася тады творчасцю Рамо і Куперэна, марыла аб грунтоўным даследаванні французскай фартэпіяннай музыкі. Але сямейныя клопаты, нараджэнне сына адклалі задумы на нявызначаны тэрмін. Толькі мара заставалася. І калі сыну споўнілася тры гады, вырашыла ўсё ж паступаць у аспірантуру. Муж не меў нічога супраць — наадварот, падтрымаў. Сам навуковец, фізік-гідраўлік, ён працаваў у Акадэміі навук і добра разумеў імкненне жонкі да навуковага пошуку. Падтрымку сям'і Іна Дзмітрыеўна лічыць са-

(Заканчэнне на 7-й стар.).



Прафесар І. НАЗІНА з народным майстрам і музыкам Іосіфам ЛЫЧКОЎСКІМ.

ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ

*Каб павучыцца нам чытаць партрэты...*

*М. СТРАЛЬЦОЎ.*

## ЧАЦВЁРА СА СТАРОГА ЗДЫМКА

У 1964 годзе ў салідным дакументальным зборніку "Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг." апублікавана надзвычай рэдкая, проста унікальная фатаграфія (змешчана на 6-й стар.), зробленая ў Мінску, як можна меркаваць, на пачатку 1863 года ці не першым айчынным фатографам Антонам Прушынскім. На ёй — кампактнай маляўнічай групай — 19 чалавек. Адны сядзяць, іншыя (ззаду) стаяць. На пярэднім плане наш класік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, яго дачка, вядомая бунтарка-"нефармалка" Каміла і паважаны мінскі педагог і вучоны-філолаг Фларыян Чапялінскі. Побач размясціліся астатнія, пераважна моладзь. На некаторых як сімвал далучэння да святых ідэалаў патрыятызму і вызвалення — шэрыя паўстанцкія чамаркі з традыцыйнымі гарызантальнымі палоскамі-галунамі на грудзях.

Здымак не выпадковы. Зроблены ён яшчэ да пачатку ўзброенага выступлення на Міншчыне, так што чамаркі на ім усяго толькі дэманстрацыйны антураж (вядома, што некалькі такіх апранак трымаў у сябе ў атэльe Прушынскі). Ды і ўвогуле выпадковых, кшталту аматарскіх, здымкаў тады, уласна кажучы, і не рабілі. Кожны здымак быў, без перабольшання, падзеяй, да якой старанна рыхтаваліся. І людзі тут не выпадковыя, як і іх размяшчэнне. Усё было загадзя прадумана і, можа быць, у пэўным сэнсе прарэпеціравана.

Хто ж гэтыя людзі, што сабраліся ў прызначаны дзень і час у атэльe Прушынскага ў цэнтры горада на Францысканскай вуліцы (цяпер вуліца Леніна)?

У названым зборніку знятыя асобы пералічаны вельмі коратка, глуха — хто пазначаны прозвішчам і імем, хто адным толькі прозвішчам. Ды яны, гэтыя імёны, мала што цяпер гавораць — прайшло ж столькі часу. Адпаведныя, зноў жа кароткія, нібы праз зубы, тлумачэнні даваў падчас следства і фатограф Прушынскі (ён таксама прычыніўся да вызваленчага руху і пасля адсядкі ў мінскіх вязніцах быў высланы ў Табольск, куды, дарэчы, перанёс і сваю майстэрню).

Некаторыя асобы ўсё ж пазнаюцца, інакш кажучы, ідэнтыфікуюцца. Вось, напрыклад, маладзенькі студэнцік Віталь

(Працяг на 6-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ПА ЗАПРАШЭННЮ ПРЭЗІДЭНТА*

### ПАДАРУНАК ЦЗЭН ЯН'ЯН



**Масты дружбы паміж народамі будуюць не толькі палітыкі. Міждзяржаўныя сувязі ў немалой ступені ўмацоўваюць і чыста чалавечыя кантакты, якія прынята называць народнай дыпламатыяй. Своеасаблівым паслом міру стала трынаццацігадовая школьніца з Пекіна Цзэн Ян'ян, якая прыбыла ў Мінск па запрашэнню Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. 9 лютага кіраўнік дзяржавы сустрэўся з дзяўчынкай і яе бацькамі ў сваёй рэзідэнцыі.**

**Ужо ў дзесяцігадовым узросце яна ўдастоілася персанальнай выставы ў Пекіне. А ў Японіі, дзе работы юнай мастачкі дэманстраваліся ўжо тры разы, яны былі адзначаны "Залатым прызам". Каля ста карцін прывезла з сабой Цзэн Ян'ян і ў Мінск. Іх можна ўбачыць на выставе, якая адкрылася ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. А сваю лепшую работу дзяўчынка падарыла Аляксандру Лукашэнку. Гэты малюнак, выкананы ў традыцыйным кітайскім стылі, на тонкай паперы ў разгорнутым выглядзе складае 34 метры ў даўжыню. На ім Цзэн Ян'ян намалявала роўна сто мядзведзяў пандаў. Менавіта гэту жывёліну найбольш шануюць у Кітаі і лічаць сімвалам міру і дабрабыту. Прывезла госця і шмат цацачных медзведзянят — у падарунак беларускім дзецям.**

*ПЕРШЫ АЛІМПІЙСКІ МЕДАЛЬ*

### А. АЙДАРАЎ ВЫЙГРАЎ «БРОНЗУ»




**На XVIII зімовых Алімпійскіх гульнях у Нагана ў гонцы біятланістаў на 20 кіламетраў беларуская зборная заваявала свой першы медаль. Здабыў яго Аляксей Айдараў — ён стаў трэцім у індывідуальнай гонцы біятланістаў.**

**НА ЗДЫМКУ: прызёры гонкі біятланістаў на 20 кіламетраў (злева направа) КАРАРА, ХАНЕВОЛ, АЙДАРАЎ.**

*ЦЭНЫ*

### УСЁ ВЫШЭЙ І ВЫШЭЙ

**Рост цэн на спажывецкія тавары ў Беларусі склаў у мінулым годзе 63,1 працэнта, паведамілі агенцтву Інтэрфакс у Міністэрстве статыстыкі і аналізу Беларусі. Інфляцыя за снежань мінулага года склала 2,3 працэнта. За 1996 год цэны выраслі на 39,3 працэнта.**

**Цэны на харчовыя тавары павялічыліся летась на 66,1 працэнта, у снежні ў параўнанні з лістападам — на 2,6 працэнта.**

**Цэны на платныя паслугі насельніцтву павялічыліся за мінулы год на 66,3 працэнта, за снежань — на 1,5 працэнта. Пры гэтым бытавыя паслугі падаражэлі на 71,7 працэнта (2,1 працэнта), паслугі пасажырскага транспарту — на 73,4 працэнта (7 працэнтаў), жыллёва-камунальнай гаспадаркі — на 62,9 працэнта, дзіцячых дашкольных устаноў — на 99,6 працэнта, сувязі — 31,3 працэнта.**

*У ТАВАРЫСТВЕ "РАДЗІМА"*

### ГРАМАДСКІ САВЕТ ВЫРАШЫЎ



**У пачатку лютага адбылося чарговае пасяджэнне Грамадскага савета Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**

**Яго ўдзельнікі — прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх структур, кіраўнікі суполак беларусаў у Расіі, Арменіі, на Украіне, у Прыднястроўі і краінах Балтыі — заслухалі інфармацыю аб рабоце з замежнымі суайчыннікамі, разгледзелі перспектывы развіцця і ўмацавання сувязей з беларусамі замежжа, ухвалілі ініцыятыву аб скліканні канферэнцыі кіраўнікоў суполак беларусаў Расіі.**

**Больш падрабязна і шырока аб гэтай падзеі чытайце ў наступным нумары "Голасу Радзімы".**

*ПАСКОРЫЦЬ ІНТЭГРАЦЫЮ*

### ЗВАРОТ РАСІЙСКІХ ВУЧОНЫХ

**Прадстаўнікі навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі, культуры і адукацыі Расійскай Федэрацыі звярнуліся да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з прапановай праявіць ініцыятыву ў правядзенні міжнароднай канферэнцыі расійскіх і беларускіх вучоных па разгляду праграмы паскарэння інтэграцыі абедзвюх краін у рамках Саюза Беларусі і Расіі. Аб гэтым гаворыцца ў заяве "Аб інтэграцыі краін СНД", прынятай Кангрэсам работнікаў навукі, тэхнікі, адукацыі і культуры Паўночнага Захаду Расіі, які прайшоў у Санкт-Пецярбургу.**

*"З пункту гледжання палітыкі, адносіны Беларусі і Вялікабрытаніі досыць складаныя. Прычына ляжыць на паверхні: Вялікабрытанія з'яўляецца цяпер старшынёй Еўрапейскага саюза і павінна прытрымлівацца яго агульнай палітыкі, нават у нейкай меры задаючы тон. А якая гэта палітыка ў адносінах да Беларусі, вядома. Хаця ў Вялікабрытаніі добрыя водгукі атрымаў даволі паспяховы пачатак работы групы АБСЕ ў нашай краіне. Многае, дарэчы, у адносінах ЕС (а, значыць, і Вялікабрытаніі) з Беларуссю залежыць ад вынікаў працы гэтай групы.*

*З пункту гледжання эканамічнага, аб адносінах Беларусі і Вялікабрытаніі магу сказаць наступнае. Брытанскія прадпрымальнікі вельмі асцярожныя, але і надзейныя разам з тым. Гэта значыць, калі яны бяруцца за стварэнне якога-небудзь сумеснага прадпрыемства, справа абавязкова будзе даведзена імі да канца. У канцы студзеня ў Мінску адбылося першае пасяджэнне сумеснага гандлёва-эканамічнага савета, а паколькі ў склад савета ўваходзяць якраз тыя англійскія кампаніі, якія ўжо працуюць у Беларусі і зацікаўлены ў далейшым супрацоўніцтве, можна спадзявацца на нейкія новыя поспехі".*

*(З інтэрв'ю газеце "Советская Белоруссия" Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Вялікабрытаніі Уладзіміра ШЧАСНАГА).*

*БЕНЕФІС НА КОЛАСАЎСКАЙ СЦЭНЕ*



**35-годдзю творчай дзейнасці заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Галіны Каральковай быў прысвечаны бенефіс "Я запрашаю вас на карнавал!", які прайшоў у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа.**

**Тэатралізаванае прадстаўленне, у якім прынялі ўдзел артысты тэатра, стала святам актрысы на коласаўскай сцэне.**

**НА ЗДЫМКУ: фрагмент бенефіса "Я запрашаю вас на карнавал!"**

*МІХАІЛУ ВЫСОЦКАМУ — 70*

### ВІНШАВАННЕ АЎТАКАНСТРУКТАРУ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка павіншаваў з 70-годдзем акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук вядомага аўтаканструктара Міхаіла Высоцкага, пад кіраўніцтвам якога распрацавана звыш ста мадэлей аўтамабільнай тэхнікі, у тым ліку ўсе машыны маркі МАЗ, што выпускаюцца цяпер.**

**На працягу 35 гадоў М. Высоцкі ўзначальвае распрацоўку аўтамабільнай тэхнікі на адказнай пасадзе галоўнага канструктара вытворчага аб'яднання "БелАўтаМаз", прыцягваючы да вырашэння праблем машынабудавання лепшыя розумы і калектывы. Ён таксама кіруе фундаментальнымі і прыкладнымі даследаваннямі ў рамках такіх важных для народнай гаспадаркі праграм, як "Машынабудаванне", "Механіка", "Белаўтатрактарабудаванне".**

**Віншуючы лаўрэата Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, заслужанага дзеяча навукі БССР, заслужанага работніка прамысловасці СССР М. Высоцкага, Прэзідэнт выказаў упэўненасць, што веды і вопыт юбіляра яшчэ доўга будуць служыць справе ўмацавання навуковага і прамысловага патэнцыялу Беларусі.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

ПРАЕКТ Закона "Аб пражытачным мінімуме ў Рэспубліцы Беларусь" атрымаў адабрэнне на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі.

ЗАЦВЕРДЖАНА праграма фарміравання здаровага ладу жыцця на тэрыторыі Брэсцкай вобласці, рэалізацыя якой разлічана да 2000 года і ўключае ў сябе як прапагандысцкія, так і матэрыяльна-тэхнічныя мерапрыемствы.

З ДАПАМОЖНЫХ рэсурсаў Дзіцячага фонду ААН/ЮНІСЕФ на падтрымку праектаў і праграм па паляпшэнню становішча жанчын і дзяцей у Беларусі будзе выдаткавана 1 мільён 75 тысяч долараў ЗША.

ДЗЯРЖАЎНЫМІ натарыяльнымі канторамі ў 1997 годзе здзейснена каля 1,8 мільёна натарыяльных дзеянняў. У бюджэт дзяржавы паступіла каля 173 мільярдаў рублёў пошліны. Прыватныя адвакаты здзейснілі больш за 660 тысяч натарыяльных дзеянняў, у выглядзе падаткаў з іх дзяржава атрымала 73 мільярды рублёў.

ЛЕТАСЬ у Беларусі нарадзілася 90,8 тысячы дзяцей, а гэта, па сведчанні статыстыкі, на 5,6 тысячы менш, чым у годзе 1996-м. На 69,7 тысячы шлюбаў прыйшлося аж 47,4 тысячы разводаў.

ПРЫВАТЫЗАВАЦЬ 70 працэнтаў прадпрыемстваў гандлю і 65 працэнтаў прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання ды 55 працэнтаў прадпрыемстваў грамадскага харчавання да 1 ліпеня — такія планы нашай дзяржавы на 1998 год.

КОЛЬКАСЦЬ алкаголікаў у Беларусі ў 1997 годзе павялічылася на 7,8 працэнта, а рост колькасці алкагольных псіхозаў склаў 3,3 працэнта.

*З ЖЫЦЦЯ СТАЛІЦЫ*

### НАДЗВЫЧАЙНЫЯ ЗДАРЭННІ

**У Мінску летась з-за надзвычайных сітуацый пацярпелі шэсць чалавек.**

**Усяго ж у сталіцы зафіксавана 14 выпадкаў разліву ртуці, адна аварыя на прадуктаправодзе, адзін крадзеж радыеактыўнай крыніцы, 148 паведамленняў аб замініраванні розных аб'ектаў (у 13 выпадках выбухованебяспечныя прадметы былі знойдзены).**

**Увогуле, у Мінску ў мінулым годзе зарэгістравана 177 надзвычайных сітуацый.**

*ЛЮДЗІ І ЛЁСЫ*

# «ЧАРНОБЫЛЬ УСІХ НАС ПАРАСКІДАЎ...»

## 2. «ШТО ТАМ У ВАС — ЧЫРВОНАЕ ЛІСЦЕ НА ДРЭВАХ?»

Расказвае Святлана Юшчанка, выхавальніца з Нароўлі:

— Каб правільна зразумець, што з намі адбываецца сёння, трэба зазірнуць назад, у тыя дні, калі здарылася аварыя.

Майму малодшаму ў 1986-м споўнілася толькі шэсць гадкоў. У Мінск жа ён пераехаў ужо шасцікласнікам. А паміж гэтым — гады хваляванняў, слёз і трывог. Колькі мы тады ўсяго наслухаліся! Бо наша бяда, яна ж была нябачная. І некаторыя людзі проста не хацелі перасяляцца, да іх свядомасці, разумення проста не даходзіла, якое гэта гора. І сёння такіх выпадкаў хапае: жывуць там, дзе ўзровень забруджання перавышае ўсе магчымыя і немагчымыя нормы — хварэюць, літаральна падаюць, паміраюць, але нікуды не едуць.

Мае бацькі таксама ў рэшце рэшт засталіся ў сваёй вёсцы. А напачатку, у 1987-м, іх выселілі — тут жа, у Гомельскай вобласці, спярша ў сваім раёне, пасля — у іншым. Але па такіх вёсках рассялілі! Глухіх, маленькіх — не было нават фельчарскіх пунктаў. Маці — настаўніца пачатковых класаў, усё жыццё ў школе. Самі ведаеце, якое тут можа быць здароўе. У бацькі сэрца хворае, гіпертанія, кантузія — ён ветэран Вялікай Айчыннай вайны, інвалід, а тут нават таблеткі купіць і то праблема. Пасялілі іх на кватэру да адзінокай жанчыны. Уявіце, што за ўмовы там былі. Два пакойчыкі ў хаце, у першым — гаспадыня, у другім — хворыя старыя. Мучыліся яны, мучыліся і паехалі да маёй старэйшай сястры ў Буда-Кашалёўскі раён. Але і там жыццё складвалася няпроста. У сястры — сям'я, дзеці, вёска таксама не вельмі вялікая. Зноў сабралі рэчы — і назад, у Нароўлю. Праўда, у сваю хату трапіць нельга было. Ім далі невялікую кватэрку, і мама сказала: наездзіліся, натаміліся, болей я нікуды не паеду. Каб у іх болей настойлівасці... іншыя дабіваліся, калі ўжо перавязджаць — дык у нармальныя ўмовы, а не ў лес. Вядома, некаторыя тады і ў Мінск трапілі. Чуткі хадзілі, што пенсіянераў павінны перасяляць у Мінск, у мікраараён Уручча... Але на справе атрымалася — толькі тых пенсіянераў, якія працавалі, як мы гаворым, у "белых будынках" — кіраўніцтва раёна, а простыя смяротныя нікому непатрэбныя. Некаторыя па дзецях раз'ехаліся, нехта застаўся ў Нароўлі, але ў Мінску я так і не бачу нашых нараўлянскіх старых.

А ў мяне тады вельмі хварэў малодшы сын. Дайшло нават да таго, што ён тры месяцы ляжаў у туберкулёзнай бальніцы. Я, педагог, працавала на той час у дзіцячым садзіку, якраз дзеля таго, каб быць побач з ім. Пасля перайшла ў школу, выкладала беларускую мову і літаратуру. У Мінску спачатку таксама ўладкавалася ў школе, тры гады працавала. А потым пачаліся хваробы. Хаця моцныя галаўныя болі напаткалі мяне яшчэ ў Нароўлі, здаралася, і прытомнасць трацілa... Карацей, пра тое, што такое сапраўднае здароўе, ужо даўно забыла.

Разам са мной і сынам у Мінск спачатку прыехаў і муж. Але хутка ён вярнуўся ў Нароўлю. Чаму? Ведаеце, мы ўжо былі людзьмі напалоханымі, столькі гора бачылі, нас жа пастаянна кудысьці вывозілі. Першы раз яшчэ з дзіцячым садам — у Гродзенскую вобласць у 1986 годзе. Людзі ў тых мясцінах нас вельмі баяліся, здаралася, пыталіся: што там у вас — чырвонае лісце на дрэвах? Мы адказвалі: не, усё ў нас нармальна, самі ж не разумелі — нармальна ці не. Я купляла сваіму Мішу малако ў адной бабулькі, дык яна не хацела, каб я нават у дом заходзіла: ставіла на брамку слоік, а я пакідала там грошы. Нам давалі пуцёўкі на аздараўленне ў спецыяльныя санаторыі для мамі дзіцяці. Бывала, разгаворышся за сняданкам з суседзямі па століку, глядзіш, за абедам іх няма: баяцца, не садзяцца да нас.

І ў Мінск прыехалі з пачуццём страху. Нават ад калег па рабоце хавала, што мы чарнобыльскія перасяленцы. Хаця ні я, ні мая сям'я ў тым сапраўдным Чарнобылі ніколі не былі, нават дакладна і не ведаем, дзе гэта. У магазіне — асобны прылавак для чарнобыльцаў, а ў паліклініцы — нашы карткі таксама асобна стаяць. Я разумею: нас выдзяляюць, каб было лягчэй дапамагчы. Але, здараецца, дапамога застаецца толькі на паперы, а "чарнобыльская" пячатка ператвараецца ў сапраўдную кляймо.

Мне здаецца, педагогі ўвогуле такія людзі, што не думаюць пра сябе. За сем год ні я, ні муж так і не былі ў радыяцыйным цэнтры, пакуль маці аднаго з маіх вучняў, якая там працавала, не сказала: вам неабходна прайсці ўсе абследаванне. З-за таго, што шмат хварэла, у мяне ўзніклі праблемы на працы, прыйшлося пакінуць школу. Вельмі перажывала, з-за гэтага стан здароўя яшчэ больш пагоршыўся, бо ўсё трымала "ў сабе" — нікому не паскардзішся, вакол чужыя людзі. Канешне, перасяленцы час ад часу сустракаюцца. Але што мы... Паплачам адзін аднаму, а што яшчэ?! Крыўдна, выкладвалася, колькі сіл было... На радзіме муж працаваў дырэктарам школы, інспектарам, а таму і дома ў нас — усё для школы, школа — найпершае і найгалоўнейшае.

...Пасля звальнення кінула ўсё і паехала ў Нароўлю да сваіх урачоў. Яны мяне адразу — у бальніцу, пад капельніцу, і там я крышку адышла. Вярнулася ў Мінск: сын жа тут вучыцца. Але ў маёй школе месца мне не знайшлося... І я зразумела, ды і многія "чарнобыльцы" таксама (хацелі, магчыма, баяцца гаварыць услых пра гэта): не вельмі мы тут пажаданыя. Адна старая настаўніца з Гомельскай вобласці казала так: шмат хочаце, але мала атрымаеце. Так і выйшла. А, можа, лёс так вызначыў. Хаця не ведаю, што такога асаблівага я хацела: проста спагады і невялікай дапамогі ў цяжкую хвіліну. Дык і сама ж імкнулася ўсёй душою — адпрацаваць, аддаць людзям, вучням, што толькі магла...

А тут дзіцячы садзік новы адкрываўся, я і пайшла туды працаваць выхавальніцай. Але зноў жа тое, што "чарнобылка", не сказала... Пастаянна, як падпольшчыкі, жывем. І не толькі я адна. Нібы якая-то іншая раса.

Муж, як ужо казала, застаўся ў Нароўлі. Зараз апошні год перад пенсіяй дапрацоўвае ў раённым аддзеле адукацыі. Спачатку я на яго крыўдзілася. Але ён мне сказаў: пажывеш у Мінску, тады ўсё зразумееш. І сёння я ўпэўнена: муж ацаніў сітуацыю правільна і прыняў правільнае рашэнне. Хаця ў Мінску яму прапаноўвалі працу матэматыка ў школе, дырэктар нават чакаў, трымаў месца. Але муж не прыехаў. І я яго разумею. Там, дома,ён адчувае сябе чалавекам, а кім быў бы тут? Перасяленцам, чарнобыльцам, які нібыта ў кагосьці штосьці адняў. А ён вельмі горды...

Наш старэйшы сын ужо працуе. Ён вайсковец, скончыў вучылішча, зараз у Калінінградзе — у расійскай арміі, так атрымалася. Нядаўна прыязджаў у водпуск, я прасіла: сыночак, як кантракт закончыцца, трэба вяртацца дадому, быць усім разам, бо жыццё вельмі ўжо цяжкае...

Добра, што хоць малодшы да новага месца прывык, задаволены. Аднак хаця ён ні ад кога не хавае, што прыехаў з Нароўлі, у асноўным усё ж такі сябруе з такімі, як сам, хлопцамі-перасяленцамі. Але не буду душою крывіць: ні разу не было, каб паскардзіўся, каб недзе абзывалі ці пакрыўдзілі з-за таго, што "чарнобылец".

А, у рэшце, я і людзей разумею: мабыць, мы трапілі ў такі цяжкі перыяд, калі ўласных праблем хапае ў кожнага, таму і да Чарнобыля справы няма. Але мы прасілі б толькі аднаго, як сказала мая старая сяброўка, таксама настаўніца: нам бы падлячыцца... Калі жылі ў Нароўлі, хоць дзяцей вывозілі на аздараўленне, а тут — нічога.

Магчыма, я не разумею, але некаторыя мясцовыя жыхары скардзяцца: занялі мы іх кватэры, а яны ж таксама чакалі ў чарзе па 10—15 год. Вы думаеце, мы так рады? Мне здаецца, каб была чыстая зона, на крылах бы паляцела назад...

**Галіна УЛІЦЁНАК.**




# ЦУМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Расшырэнне гандлёвых плошчаў дазволіла адмовіцца ад традыцыйнага для нашых універмагаў прынцыпу размяшчэння гандлёвага абсталявання ўздоўж сцен. У "новым" ЦУМе прылаўкі размешчаны ў цэнтры залы, што дазваляе стварыць дадатковыя гандлёвыя секцыі. Сёння інтэр'ер, рэкламнае афармленне, прасторныя залы выгадна адрозніваюць ЦУМ ад іншых беларускіх універмагаў, многія з якіх (напрыклад, ГУМ) на працягу апошніх трыццаці гадоў працуюць без рэканструкцыі і замены абсталявання.

У ЦУМе прадстаўлена больш за 25 тысяч назваў тавараў — ад дробнай галантарэі да размешчанай на пятым паверсе корпуснай мэблі. Асартымент расшыраны і за кошт новых секцый, што з'явіліся тут: створаны прадуктовы аддзел, у які сёння нават стаіць чарга, нягледзячы на тое, што побач знаходзіцца гастраном "Сталічны"; адкрыта секцыя спартыўных тавараў, інструментаў, значна расшыраны секцыі цацак, канцылярскіх тавараў. Таваразварот за снежань склаў 104 мільярды беларускіх рублёў, што адразу вывела універмаг на першае месца ў краіне. У дзень гандлёвы абарот складае 3 мільярды беларускіх рублёў.

Дзякуючы таму, што магазін не быў закрыты на час рэканструкцыі, удалося захаваць усе напрацаваныя сувязі. Яшчэ ў 1994 годзе ЦУМ практычна першым выказаў намер гандляваць пераважна таварамі айчынных вытворцаў. Да такога рашэння падштурхнула сітуацыя, што склалася ў гандлі к канцу васьмідзесятых гадоў, калі прылаўкі магазінаў апусцелі, а забеспячэнне таварамі ўзялі на сябе камерсанты, якія не вельмі даверу. Іх умовы былі часта невыгаднымі для магазіна, тавары — няякаснымі, і рашэнне нападжваць сувязі з мясцовымі вытворцамі стапа натуральным выйсцем. Сёння ўдзельная вага айчынных тавараў на прылаўках ЦУМа, па словах дырэктара, вагаецца ад 70 да 77 працэнтаў, а па асобных групах тавараў нават 90 працэнтаў.

Што тычыцца імпарту, то акцэнт зроблены на тое, што ў Беларусі не выпрацоўваецца: напрыклад, парфюмерыя, некаторыя спорттавары. Тым не менш, у гандлёвых залах можна ўбачыць імпартныя тэлевізары, запатыя вырабы фірм, размешчаных далёка за межамі Беларусі, таксама сустракаюцца імпартны абутак, цацкі, іншыя тавары. Па словах супрацоўнікаў магазіна, вялікім попытам карыстаюцца дываны брэсцкага камбіната, тэлевізары "Гарызонт", на якія знiжана гандлёвая надбаўка, жаночая бялізна фірмы "Мастра".

Цікава, што да гэтага часу ЦУМ не здаў у арэнду ніводнага квадратнага метра сваёй гандлёвай плошчы. У той жа час жадаючыя могуць узяцца за аказанне на плошчах магазіна дадатковых паслуг, выконваць якія сваімі сіламі ЦУМу проста нявыгадна — нерэнтабельна. Трэба заўважыць, што на еўрапейскіх прадпрыемствах такога тыпу, як правіла, аказваецца не менш, як 50 відаў дадатковых паслуг. У ЦУМе іх сёння ўжо каля 30, і плануецца павелічэнне. Тут па-ранейшаму будуць выконвацца гравіравальныя работы, рамонт гадзіннікаў, камплектаванне падарункаў. Арганізавана такая дадатковая паслуга, як хімчыстка, працуе фоталабараторыя "Кодак", новыя бары на 50 і 120 пасадачных месцаў. Неўзабаве адкрыецца адбудаваная па еўрапейскіх стандартах дэманстрацыйная зала, дзе плануецца праводзіць паказы мадэляў, якія тут жа можна будзе набыць. Працуе цырульня для супрацоўнікаў, дзе цэны за паслугі на 50 працэнтаў ніжэйшыя, чым у горадзе. Абсталёўваецца спартыўная зала.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: у секцыі "Беларускія сувеніры" працуе прадавец Наталля ГАРОХАВІК; у цырульні; адна з гандлёвых залаў ЦУМа.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





## БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА

# «НЕПАЎТОРНЫЯ ГАДЫ»

*"З гадамі мы ўсё меней марым,*
*А ўспамінаецца часцей..."*

*Сяргей ГРАХОЎСКІ.*

Лёс сутыкаў мяне з рознымі цікавымі людзьмі, якія пакінулі адметны след у грамадстве. Але гэтая сустрэча з дзіўным, добрым чалавекам прынесла асаблівую радасць. Пазнаёміліся мы на пачатку 90-х гадоў, сяброўства працягваецца да гэтага часу. Спатканне адбылося на адной беларускай імпрэзе. Уразіў цудоўны голас, тады Мікалай Рулінскі спяваў гімн "Магутны Божа" на словы Наталлі Арсенневай. Многія прысутныя з маладога пакалення ўпершыню пачулі гімн і адкрылі імя знакамітай нашай паэткі. Цяпер стала даступным, а тады было забаронена. З таго часу я не прапускала ніводнай беларускай імпрэзы і заўсёды сустракала там Мікалая Рулінскага. Гэта незвычайны суразмоўца, чалавек-гісторыя, чалавек складанага лёсу. Часта бываю ў яго дома, размовы нашы звычайна пачынаюцца з будзённага, але паступова ён успамінае мінулае, і кожны раз я даведваюся пра невядомыя старонкі гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Я цікаўлюся гісторыяй Віленскай беларускай гімназіі (1919—1944 гады), вучнем якой быў шаноўны Мікалай Максімавіч. Пра гады вучобы ў гімназіі ён з задавальненнем распавядае.

Нарадзіўся М. Рулінскі недалёка ад Баранавіч, у сям'і свяшчэнніка. Па службе бацьку пераводзілі з аднаго прыходу ў другі. Ён быў добрым будаўніком, умеў арганізаваць царкоўны хор, у якім з дзяцінства спяваў Мікалай, таму і мае прафесійна пастаўлены голас. Пачатковую школу скончыў у Любчы, дзе бацька меў прыход. Навучанне было на польскай мове, але вучылі і беларускую. З дзяцінства цягнула да вучобы. Бацька адправіў Мікалая ў Віленскую беларускую гімназію, у Вільні ў той час вучыўся і брат Мікалая Змітрук. Гімназія знаходзілася на вуліцы Астрабрамскай, 9, у Базыльянскіх мурах. Трэба было здаць іспыты, якія даволі паспяхова і здаў. Галоўнае — Мікалай добра ведаў беларускую мову, бо ў хаце размаўлялі выключна па-беларуску. М. Рулінскі пры здачы экзаменаў па беларускай мове прачытаў верш "Вучыся, нябожа, вучэнне паможа..." Экзамен прымала Алена Лекант, яна была задаволена адказамі. Усе іспыты былі добра здадзены, і Мікалая прынялі ў першы клас гімназіі. Гэта было ў 1936 годзе. З кватэрай тады ў Вільні былі цяжкасці, але дапамог знаёмы брата, а праз год атрымаў пакой у інтэрнаце. Там ужо было добра. Інтэрнат называўся "Бурса земляў паўночна-ўсходніх".

Пераважна пражывалі там хлопцы-беларусы, іх добра кармілі. За пражыццё і ежу трэба было плаціць 25 злотых, а гэта ўжо нямала, але было вялікае жаданне вучыцца роднай мове. У бурсе была зала, дзе вучні рыхтаваліся да лекцый. Гімназія знаходзілася недалёка. Памяшканні па вуліцы Нямецкай і Дамініканскай, там жа была і польская гімназія імя Адама Міцкевіча. Дарэчы, беларускую гімназію пачалі паланізаваць. Яе назвалі імя Міцкевіча — філія беларуская. Сама гімназія месцілася ў памяшканні комплексу будынкаў з польскай.

Там ён правучыўся з 1 да 4 класа.

Першым дырэктарам у Мікалая Максімавіча быў Мікалай Анцукевіч, пасля яго змяніў Кавалевіч, які памагаў палякам у апалячванні школы. Самымі дарагімі настаўнікамі былі Алена Лекант — настаўніца беларускай мовы, яна была сапраўднай маці для вучняў, цікавілася ўмовамі іх жыцця, навукі, дапамагала, чым магла; тады ж там выкладаў настаўнік матэматыкі Барыс Кіт. Ён быў веліч у навуцы.

Спевам, ігры на духавых музычных інструментах вучыў Кароль. Ён кіраваў і хорам у Пятніцкай царкве, якая належала да беларускай школы. Мікалай Максімавіч спяваў у хоры і чытаў "часы", бо валодаў славянскай мовай. З тых далёкіх часоў М. Рулінскі запомніў экскурсію, якая прайшла па маршруту Вільня — Варшава — Гданьск — Гдыня — Познань — Тарунь і назад. Хоць з той пары мінула больш чым 60 гадоў, але назаўсёды засталіся прыемныя ўспаміны.

Часта ў бурсе ладзілі вечарыны, прыходзілі гімназісткі, якія жылі ў бурсе насупраць царквы святога Мікалая. Весела бавілі вольны час — спявалі, танцавалі, дэкламавалі беларускія вершы, ставілі спектаклі. Жылі насычаным духоўным жыццём. Таму з імі цікава сустракацца, ад іх расповядаў атрымліваеш асалоду, духоўнае багацце. Людзі-легенды, яны ў гімназіі атрымалі не толькі добрыя веды, але і авалодалі некалькімі мовамі.

Гады вучобы ў гімназіі засталіся ў іх сэрцах на ўсё жыццё, бо Вільня была кузняй беларускай інтэлігенцыі. Калі пачалася другая сусветная вайна, Мікалай Максімавіч паехаў вучыцца ў Навагрудскую беларускую гімназію.

Памятным быў 1994 год, калі ў Вільні адзначалі 75 гадоў Віленскай беларускай гімназіі. Праходзіла спатканне ў Базыльянскіх мурах, у тым самым памяшканні, дзе былі класы. Прыехалі былыя вучні з Беларусі, Прыбалтыкі, Польшчы. Гэта былі цудоўныя хвіліны ўспамінаў. Тады, даўно, яны былі бедныя, часта галодныя, дрэнна апранутыя, у асноўным вясковыя дзеці, якіх, нягледзячы на цяжкасці, бацькі адправілі ў Вільню вучыцца на роднай мове. "Але гэта былі самыя шчаслівыя гады, — успамінае М. Рулінскі. — У Вільні былі польская, беларуская, руская, літоўская гімназіі. Калі было якое свята, выходзілі гімназісты на вуліцы са сваімі сцягамі. Беларусы з бел-чырвона-белым. Такая радасць, такі стан душы, якія нельга апісаць. Гэта трэба перажыць".

Вайна. Лёс раскідаў былых гімназістаў і іх настаўнікаў у розныя краіны свету. Але яны да гэтага часу падтрымліваюць сувязі, сустракаюцца, дзеляцца ўспамінамі. Талент сяброўства, якому трэба вучыцца.

Нялёгкі лёс у Мікалая Рулінскага. У гады вайны ён з сябрам вывез з акупіраванай Рыгі частку архіва К. Езавітава, каб зберагчы для нашчадкаў. Тады не было страшна, была ўпэўненасць у сваёй справе, ім валодала любоў да Бацькаўшчыны, рабіў усё на карысць Радзіме, хацелася жыць і бачыць вызваленай, шчаслівай Беларусь. Марыў стаць лекарам альбо архітэктарам, каб будаваць. Але не заўсёды бывае так, як марыш, жыццё робіць свае карэктывы.

Дзень Перамогі ён сустрэў у Польшчы. Там жа агенты КДБ арыштоўваюць яго, самалётам адпраўляюць у Маскву. Быў упэўнены, што гэта нейкая памылка. Ды не, за беларускую свядомасць без суда і следства трапляе аж на цэлых восем гадоў у сталінскія лагеры, адбывае пакаранне ў Омску. Нічога тады не хацелася, толькі б выжыць.

Вярнуўся ў 70-х гадах на радзіму ў Беларусь, якой верай і праўдай служыў. Але радзіма не прыняла свайго сына, ён не быў патрэбны, яна стала чужой.

Прыехаў у Вільню, уладкаваўся на папяровую фабрыку, на якой працаваў да выхаду на заслужаны адпачынак. У Вільні спаткаў сваю зямлячку з Любчы Кіру Прахараўну, якая каля дзесяці гадоў адбыла ў Краснаярскім краі, куды вывезлі маці з пяццю дзецьмі. Трынаццацігадовая Кіра працавала па 12 гадзін на лесанарыхтоўках. Разам прайшло дзяцінства ў Любчы, аднолькава цяжкі лёс напаткаў іх. Пажаніліся, выгадавалі дваіх дзяцей — дачку Іру і сына Міраслава, якія сталі медыкамі. Цяпер радуюцца поспехам унукаў, якіх у іх чацвёра.

Мікалай Максімавіч да гэтага часу не рэабілітаваны. Не лічыць патрэбным прыніжацца, аднятага здароўя, маладосці, пакалечанага лёсу не вернеш.

Цяпер Мікалай Максімавіч малюе цікавыя краявіды, піша вершы, любіць глядзець спартыўныя перадачы, калі здароўе дазваляе, бывае на беларускіх імпрэзах, якія ладзяць беларусы Літвы, дзеліцца ўспамінамі з нашчадкамі, выступае перад вучнямі віленскай беларускай школы.

Кіры Прахараўне споўнілася 70. Мікалаю Максімавічу ў сакавіку спаўняецца 75. Шмат гадоў жыцця прайшло! Што ж у ім было добрага і шчаслівага? Самыя шчаслівыя гады для Мікалая Рулінскага — гады вучобы ў гімназіі. З нецярпеннем чакае вестак ад сяброў. Гляджу на гэтага дзіўнага, цікавага чалавека, і ўспамінаюцца радкі верша:

**Яны зыходзяць без вяртання,**
**Такія непаўторныя гады,**
**А мы то думалі калісьці,**
**Што будзем молады заўжды.**

Яму ўжо 75. Але пачуцця гумару ён не губляе, як і аптымізму. А мы Мікалая Рулінскага помнім і паважаем.



**НА ЗДЫМКУ: Мікалай РУЛІНСКІ, 1998 год.**

## ДОБРАЯ СПРАВА ЯНКІ ЗАБРОЦКАГА

# БЕЛАРУСКІ АСЯРОДАК У ВАРШАВЕ

Ужо некалькі гадоў доўжыцца наша добрае сяброўства з варшаўскім беларусам Янкам Заброцкім. Восенню, наведаўшы Варшаву, не магла не завітаць да Янкі ў ягоны цяперашні офіс па вуліцы Гагарына, 15. Будучы ў гэтым горадзе, заўсёды з сумам думала аб тым, што так і не ўдалося мясцовым беларусам арганізаваць тут нейкі беларускі куточак, куды можна было б прыйсці і пабачыцца са знаёмымі і сябрамі. Беларуская прысутнасць тут паволі страчваецца.

Аднак гэтым разам мой настрой моцна ўзняўся, калі я апынулася ў Цэнтры славянскай прэсы і кнігі паназванаму вышэй адрасу. Янка Заброцкі і з'яўляецца яго гасцінным гаспадаром — дырэктарам і ўладальнікам. Многа розных людзей даводзіцца мне сустракаць у сваёй працы, але такіх сапраўдных энтузіястаў, як спадар Янка, сярод іх не так многа. Тым, што многія ствараюць зараз свае прыватныя кнігарні, фірмы, у наш час нікога не здзівіш. А вось каб чалавек за свае грошы ўласнымі сіламі стварыў прыватны, вельмі патрэбны іншым людзям культурны цэнтр, гэта ўжо сам па сабе выдатны факт. Спадар Янка і яго жонка Ганна найперш думаюць пра духоўныя патрэбы людзей. Узялі ў арэнду памяшканне, самі адрамантавалі яго, выпісалі кнігі, газеты, часопісы з Украіны, Расіі і, вядома ж, з Беларусі. Беларускі куток тут багаты: выданні з Беларусі, беларускі эміграцыйны друк, беларускія кніжныя выданні з Польшчы. Самыя прымхлівыя запатрабаванні наведвальнікаў могуць быць задаволены.

Кнігі займаюць асобае месца ў жыцці спадара Янкі, яны, можна сказаць, складаюць яго сэнс. Дваццаць пяць гадоў ён працаваў шэфам рэкламы Цэнтра распаўсюджвання навуковых выданняў Польскай акадэміі навук, а пасля яшчэ дзесяць гадоў — шэфам імпарту. Адным словам, чалавек, прафесійна дасведчаны ў справе працы з кнігаю і яе распаўсюджвання. Спадар Янка мае вышэйшую, але не філалагічную адукацыю. Аднак да філалогіі, асабліва беларускай, адносіны ў яго паважлівыя. Калісьці, на пачатку 70-х гадоў, ён і яго сябра Аляксандр Вярбіцкі нават склалі заяўкі, каб стаць завочнікамі беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Але не былі прыняты, таму і давялося застацца толькі беларусазнаўцам-аматарам.

Цэнтр супрацоўнічае з рознымі бібліятэкамі як у Польшчы, так і ў замежжы. Дзякуючы спадару Заброцкаму, і распаўсюджваецца ў свеце беларуская кніга. Цэнтр мае сталыя кантакты з бібліятэкамі Каталіцкага люблінскага універсітэта, Універсітэта А. Міцкевіча ў Познані, Універсітэта М. Капэрніка ў Торуні, Ягелонскага універсітэта ў Кракаве, Сілезскага — у Катавіцах, у Аполе, з Ossolineum у Вроцлаве.

Акрамя распаўсюджвання кніг, цэнтр праводзіць і іншую культурную працу. Тут ладзяцца вечарыны, сустрэчы з вядомымі літаратарамі, навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі, якраз падчас майго наведвання рыхтавалася сустрэча са знакамітым беларускім дзеячам у Варшаве — Алесем Баршчэўскім. Тут і своеасаблівы грамадскі цэнтр, куды заходзяць як тутэйшыя беларусы, украінцы, расейцы, так і прыезджыя з-за мяжы. Можна ўтульна пасядзець за кубачкам кавы, паглядзець новыя кнігі, паразмаўляць з гаспадаром і наведвальнікамі, падзяліцца навінамі, абмеркаваць тое, што хвалюе. Усіх тут ветліва сустракаюць, дапамагаюць у розных патрэбах. Паклаўшы тут свае дарожныя рэчы, я змагла спакойна хадзіць цэлы дзень па Варшаве. Тут і расклад цягнікоў ці аўтобусаў, можна і пазваніць пры неабходнасці па тэлефоне.

Адным словам, цэнтр сп. Янкі Заброцкага — гэта якраз і ёсць той гасцінны беларускі куточак у Варшаве, якога не хапала ўсім нам. Я была бясконца ўдзячная гэтаму чалавеку, хацелася сказаць яму многа добрых слоў. Але сп. Янка па-беларуску сціплы чалавек, не любіць пахвалы ў свой адрас. Сам ён больш думае пра справу і каб людзям было добра. Клопатаў хапае звыш меры. Найперш фінансавыя. Няпроста трымаць цэнтр за ўласны кошт, даходаў пакуль што няма, усё, што зарабляецца на продажы кніг, ідзе на патрэбы цэнтра, каб пашырыць яго дзейнасць. Вось ужо і каталог свой пачалі выдаваць, хоць і дарагая справа, але без яго немагчыма распаўсюджваць літаратуру. Каталогі высылаюць усім зацікаўленым установам, яны зараз своеасаблівая візітная картка цэнтра.

Яшчэ ў 1994 годзе падчас сваёй паездкі ў ЗША і Канаду я пачала цікавіцца пытаннямі забеспячэння замежных бібліятэк беларускімі выданнямі. Вядома ж, першае знаёмства пачалося з Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі, дзе працавалі Зора і Вітаўт Кіпелі. Дзякуючы ім, у гэтай бібліятэцы сфарміраваны добры беларускі раздзел. Далей знаёмства працягвалася ў публічных бібліятэках у Кліўлендзе, Чыкага, ва універсітэцкай бібліятэцы ў Таронта. А там сітуацыя была ўжо іншая. На паліцах ляжалі толькі беларускія кніжкі савецкага часу, далёка не лепшыя. Новых кніг амаль зусім не было. Беларускія раздзелы выглядалі многа бядней, чым украінскія і рускія. Ніхто з Беларусі, каму гэта належыць па службовых абавязках, не паклапаціўся, каб беларуская кніжка пайшла ў свет. А мы ведаем, які сапраўдны кніжны бум адбыўся ў Беларусі за апошнія дзесяць гадоў, як многа выйшла цудоўных нацыянальных выданняў. Яны патрэбныя ў бібліятэках іншых краін, цікавасць да беларускай кнігі ёсць, але няма сапраўднай зацікаўленасці з нашага боку.

У гэтай сітуацыі праца Янкі Заброцкага і яго цэнтра ўяўляецца мне асабліва важнай і патрэбнаю. Ён працуе за нашу беларускую дзяржаву, разумее, што неабходна больш даваць інфармацыі пра Беларусь у свеце. Згуртаванне "Бацькаўшчына" разам са спадаром Заброцкім некалькі гадоў вяло працу па забеспячэнні беларускімі выданнямі бібліятэк Польшчы, і цяпер мы таксама ганарымся, што далучыліся да гэтай неабходнай справы.

Цэнтр павінен жыць, ён патрэбны людзям.

**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня Рады ЗБС "Бацькаўшчына".**

У ДЗЯРЖКАМІТЭЦЕ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ

# НАРАДА ПА ПРАГРАМЕ «БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ»

Адбылася нарада па абмеркаванню дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі многіх міністэрстваў, культурна-асветных устаноў, грамадскіх арганізацый: "Бацькаўшчына", "Радзіма", Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. На нарадзе была падсумавана праца з беларусамі замежжа за мінулы год, абмеркаваны сумесны план дзейнасці на бягучы год з улікам прапаноў беларускіх арганізацый у замежжы. Кіраўніцтвам камітэта былі выкладзены асноўныя прыярытэтныя накірункі ў сістэме супрацоўніцтва з суайчыннікамі. Гэта падпісанне міжурадавых пагадненняў аб падтрымцы беларусаў замежжа (на сённяшні дзень такое пагадненне ўжо падпісана з Малдовай, рыхтуюцца праекты дагавораў з Украінай, Літвой і Расіяй). Гэта стварэнне культурных цэнтраў, помнікаў беларускім дзеячам гісторыі і культуры, развіццё беларускамоўных школ у замежжы, прадаўжэнне працы над энцыклапедычным даведнікам "Беларусы ў свеце", распрацоўка "Закона аб суайчынніках, якія пражываюць за мяжой", правядзенне навуковых канферэнцый. Вялікую ўвагу плануецца ўдзяліць інфармацыйнаму забеспячэнню, у тым ліку з выкарыстаннем электронных сродкаў сувязі.

Удзельнікі нарады выказалі ўдзячнасць камітэту за арганізацыю сустрэчы, патрэбнай для далейшай сумеснай працы з суайчыннікамі замежжа.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

1998-мы – ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА



**Туганавіцкі паркавы комплекс, што на мяжы Баранавіцкага і Карэліцкага раёнаў, створаны ў другой палове XVIII стагоддзя. Ён акружаў сядзібныя пабудовы маёнтка Туганавічы. У XIX стагоддзі сядзіба перайшла да памешчыкаў Верашчакаў. Менавіта да свайго сябра па Навагрудскай дамініканскай школе Міхала Верашчакі часта прыязджаў Адам Міцкевіч. Гавораць, што ў ліпавай альтанцы, што захавалася да гэтага часу, ён любіў бавіць час з Марыляй Верашчака. З паркам звязаны і паўстанцкі рух Кастуся Каліноўскага, тут знаходзілася майстэрня па вытворчасці зброі.**

**Цяпер гэтае найпрыгажэйшае месца, можна сказаць, у запусценні. Парк зарос дрэвамі-самасейкамі, летам з-за крапівы і бруду можна прайсці толькі па асобных яго сцежках. Пакуль раўнадушны да гэтага гістарычнага месца Баранавіцкі райвыканкам: нават невялікую суму грошай не змаглі выдзеліць для наглядчыка-прыбіральшчыка...**

**НА ЗДЫМКУ: дуб-двайнік у Туганавіцкім парку, што ахоўваецца дзяржавай. Але да яго можна прабрацца толькі зімой.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

НАТАТКІ КРАЯЗНАЎЦЫ

# ЗА ЦІТАЎКАЮ — СЛАБАДА

**За белым гаем**
**Вёска Беразянка**
**На ўсю акругу песнямі гула,**
**Выдадніцамі славілася...**
**Зябнуць**
**З часоў вайны**
**Сады —**
**У вёсцы,**
**Што без людзей,**
**Без песень,**
**Без жытла...**
**Падмуркі**
**Муравой пазарасталі,**
**Панура вецер**
**Па хмызах ідзе.**
**Ён не забыў,**
**Як воблакі шугалі**
**Гарачым крыкам**
**Матак і дзяцей...**
**Трапечацца ў святле**
**І той заранак,**
**Калі зырчэлі болем каміны...**
**Ды гэта шчэ не ўсё:**
**Дзесяткі пахаванак**
**Шукалі тую вёсачку**
**З вайны.**
**Паперыны шукалі свой парог,**
**Чакалі ўдоў, чакалі мацярок.**
**Ды не было чуваць у вёсцы**
**плачу...**
**Зноў Беразянку ў снах**
**юначых бачу.**

Апошняя па часе публікацыя гэтага верша Алеся Пісарыка — у кнізе "Журба вяргіні" (Мінск, "Беларускі кнігазбор", 1997 год). Значыць, памяць пра Беразянку жыве і цяпер, болей як праз паўстагоддзя пасля трагедыі.

Беразянка нагадала і пра цікавыя асаблівасці, знаходкі ў мове жыхароў Зацітавай Слабады. Наступныя абразкі захаваліся ў маёй памяці дзякуючы таму, што бацька — Мікалай Мікалаевіч Карлюкевіч, карэнны слабадчанін, перадаў мне гэтыя выключныя, з касмічнай энергетыкай слоўцы. Услухайцеся... Сапраўдныя словы-пазмы, словы-сімфоніі, у якіх воблік бярозы ўвасобіў гаму гукаў, палітру фарбаў, адценні, колеры, непаўторнае харастве і самога дрэва, і людскога ўяўлення пра яго. Як вось гэтае... Помніцца, было гэта на Барчаку, у лесе, кіламетры са два ад Зацітавай Слабады. Зіма. Пачатак лютага. Утрох ці ўчатырох выбраліся па дровы. І мне, малечы, знайшлася работа. Сукі абсякаю, цераблю. Выбіраючы, што зваліць з пня, дарослыя не надта зважаюць на таўшчыню. Не канём жа вывозіць. Дарога побач, то ж пройдуць і машына, і трактар. Стаміліся. Бацька, сцякаўшы, пакуль абцерабілі павалённую елку, расплавалі яе, кліча перадыхнуць:

— Сапніце, хлопцы...

Разагрэліся, горача, бы ўвесну. Следам за пыхценнем папяросы — развагі, згадкі, анекдоты. Але без непрыстойнасцей, без матаў. Лес патрабуе чысціні, светлых, прыстойных паводзін. Адпачылі крыху. Бацька выбірае, што далей спілаваць, паваліць. Паказвае на тоўстую бярозу:

— Пшанічныя дровы.

І болей — ніякіх тлумачэнняў. Быццам нам усё і так зразумела. А з бярозы і сапраўды дровы павінны атрымацца пшанічныя. І гарэць будуць добра. Як высахнуць, то і без трэсак у печы распаліш. І жар ад такіх паленцаў пад усё добрым здаецца: і скварку падсмажыць, і мачанку згатаваць, і бліны спячы... А пасля і буракі, і смажонікі, і фасолю, і бабку, словам, усё ў чыгунку ў печ стаў, — і нішто не падгарыць, не перасмажыцца. З такімі дровамі ніякіх табе, гаспадыня, турбот. Асабліва, калі яшчэ на падворку ў вярсце паляжаць з год, а то і болей, пасохнуць.

Бялюткія, чысцюткія, спорныя, дарагія, ёмкія дровы. Такія не часта, не ўсюды. На такія пашчасціла. Нібы на свята булак напяклі. Пшанічныя хлеб... Пшанічныя дровы...

І іншае слова — чачотка — таксама з лесу прывезена. Танец?.. Чачотка... Дробныя перастукі... Што ж у гэтым "стэпе" беларускага?.. Іншая справа — "Лявоніха", "Таўкачыкі", "Верабей", "Мяцеліца", "Юрка"...

Ды толькі ўсё ж нешта ёсць, бо толькі ў нас, на Беларусі (а дакладней — чуў толькі дома, у роднай Зацітавай Слабадзе), гавораць пра каржакаватую бярозу:

— Чачотка... А ці будзем валіць гэтую чачотку?.. А хіба ж справішся ты пасля з такою ўпартаю чачоткай?..

Яшчэ адна, коласаўская, ваколіца, суседзіца Зацітавай Слабады — Падбярэжжа. Зазірнём і ў гэтую вёсачку, што сустракае пасажыраў па дарозе шасейнай на Мінск альбо, наадварот, — у Бабруйск, Гомель. Што датычыць назвы, паходжання назвы, то тут выяўляецца свайго роду арыенцір. Месца ля берага. Недалёка ад Падбярэжжа — Свіслач. Пра Падбярэжжа — аднайменны верш Якуба Коласа, надрукаваны ў газеце "Літаратура і мастацтва". Падбярэжжа паэт успамінаў у пісьмах да Петруся Глебкі, да І. Ю. Міцкевіча, у дзённіку "Кніга Ташкенцкага быцця", у сшытку запісаў апошняга свайго часу "На схіле дзён". Тут, у Падбярэжжы, Колас адпачываў, з падбярэжцамі пухавіцкімі сябраваў. Вось радкі з верша "Падбярэжжа", прысвечанага Пятру Глебку:

**Прыгадаем, Пятро, тыя межы,**
**Па якіх нашы ногі хадзілі.**
**Жыў і ты, жыў і я**
**Ў Падбярэжжы,**
**І былі мы тады яшчэ ў сіле,**
**Час і хату, і грушу змітрэжыў,**
**А якія былі саняжанкі!**

**Іншы вобраз цяпер**
**Падбярэжжа —**
**Не пазнаць падбярэжскай**
**палянкі.**
**Я не бачыў пышнейшай адзежы**
**І убранства лугоў, зеляніны,**
**Апроч той, што цвіла**
**ў Падбярэжжы,**
**Уздоўж Свіслацкай**
**мірнай даліны!**
**Нас хілілі дубовыя вежы,**
**Свіслач рыбай нас**
**шчодра дарыла.**
**Эх, Пятро, мой Пятро!**
**Падбярэжжа**
**Прыгадаць мне сягоння так міла!**

Расказаўшы пра панадсвіслацкія вёскі-суседзіцы Зацітавай Слабады, азірнёмся ў іншы бок. Туды, дзе раскіданы асноўныя палеткі сённяшняга калгаса імя Чапаева.

Грабаўё яшчэ на памяці слабадскіх жыхароў. А фактычна Грабаўё — з вёсак ужо зніклых... На Пухаўшчыне Чарнобыль не ніішчыў мястэчак і вёсак. Наадварот — прытулак свой у пухавіцкіх мясцінах пасля чарнобыльскай бяды знайшлі перасяленцы "з зоны". Ды ўсё адно знікаюць і ў гэтым куточку Беларусі вёсачкі. Знікаюць, не пакідаючы ніякіх слядоў. Тапанімісты не разгадалі яшчэ іх назвы. У энцыклапедыях няма пра іх артыкулаў. Добра, калі каторую з памёршых вёсачак згадала раз ці два "раёнка", то застанецца тады радок-сведчанне, радок-памяць. Тое ж і з Грабаўём, што калісьці існавала, жыло звычайным вясковым жыццём у Пухавіцкім сельсавеце, у прасторы паміж цэнтральнай сядзібай калгаса імя Чапаева Зацітавай Слабады і вёскай Раўчак. Жыхары ўжо Зацітавай Слабады расказваюць: некалі ў голае поле паблізу лесу прыехаў звычайны чалавек — з прозвішчам Грабоўскі. Пачаў будавацца, хутар сабе ладзіць, сад садзіць. Кажуць, што і пасля рэвалюцыі яшчэ толькі адна сядзіба Грабоўскіх тут і была. Насыпаў Грабоўскі націху дарогу ад свайго хутара да Раўчака (усё ж там вёска, нейкі цэнтр). Пасля да Грабоўскіх падсяліліся Белавусавы. І яшчэ нехта, і яшчэ нехта. Людзям працавітым, неспакойным даспадобы былі гэтыя мясціны. Зараз той вугал лесу, што падыходзіць да колішняга Грабаўя, а другім канцом навідавоку ў Зацітавай Слабады, як быццам і без назвы, вугал Старынкі. Сама ж Старынка — ёмісты лясны масіў. А раней гэты вугал быў тэрыторыяй заўважанай і адасобленай. Найперш па назве — Грабаўскі лес. А што ў прамежку паміж хвойнікам і полем, што парасло кустоўем і алешнікам, — усё гэта яшчэ гадоў пятнаццаць назад Грабаўскімі лажкамі звалі. Першы Грабаўскі лажок, другі, трэці... Арыенціры для грыбнікоў, для калгасных трактарыстаў, для пастухоў. Попе — Вялікае Попе. Тут грабаўскім было раздолле: жыта сей, грэчку сей, бульбу садзі. Толькі паспявай абрабляць... Відаць, сялянам з Грабаўя крыху зайздросцілі ў навакольных вёсках. Таму ж, пэўна, і казалі іншы раз, што невялікім ураджай будзе, што збажына раней тэрміну пасохне, ківалі ў бок шчасліўчыкаў: "А ў Грабаўі дождж ідзе..." Ужо шмат пазней, калі ў вёсачцы пры лесе застаўся ўсяго некалькі хат, старыя людзі самаіранічна, з болем, што губляецца колішняя маладосць і маладосць іх вялікіх паселішчаў, казалі і такое: "А што там у цемені сядзець без вяселля і радасці. Пойдзем вось у Грабаўё на танцы..." А тады, перад калгасамі, заможнае грабаўскае жыццё пачало раскідвацца. Белавусавых, Ількевічаў раскулачылі. Калгас (а тады ўвайшло Грабаўё ў раўчацкі "Ураджайны край") пазабіраў хаты, лепшыя хаты лепшых гаспадароў. Зрабілі з беднаты адну брыгаду — так і жылі да вайны. А як прыйшлі немцы, той-сёй вярнуўся ў Грабаўё. І, лічы, уся вёсачка — мужчынская яе палова — падалася ў паліцыю. Служылі ў Пухавічах. Пазаймалі і чужыя хаты. А ў сорак чацвёртым з немцамі ўцякалі. Ужо з Германіі іх павярталі. А Грабаўё жыло яшчэ пасля вайны. Праўда, распалася брыгада. На працу хадзілі на Раўчак — на ферму, паляводствам займаліся. Пазней "Ураджайны край" уліўся ў калгас імя Чапаева. А людзі патроху з Грабаўя раз'язджаліся: і у Баравую (і яна сёння вымірала б, калі б не дачнікі), і ў Пухавічы, і ў Маркаўшчызну, што бліжэй да шашы, і на Раўчак. Новая бяда падступіла да Грабаўя: вайскоўцы вакол вёскі палігон наладзілі. Танкі, палаткі, траншэі, што апярэзвалі і поле, і лес, нібыта ў вайну. Заняткі, вучэнні, у лесе — машыны, ахова. Часам боязна было і па грыбы схадзіць. Так і разбегліся ўсе з Грабаўя. Хаты хто вывез, хто прадаў на вываз. Спачатку адметным следам заставаліся багатыя на яблыкі, грушы, слівы сады. Цяпер і іх аблічча, іх прыналежнасці да вёскі не бачна. Як не бачна і следу грабаўскога.

Маркаўшчызна. У даведніках чамусьці яе падаюць як Маркаўшчыну. Хаця, відавочна, адна літара істотна мяняе характар, сутнасць тапоніма, назвы. У Маркаўшчызны пякучая гісторыя. Перад вайной паблізу яе быў дом адпачынку. Мясціны тут, на беразе Цітаўкі, і сапраўды досыць прывабныя, прыцягальныя. Але ж з гэтымі мясцінамі звязана і найстрашнейшая трагедыя. Маё пакаленне яшчэ ведае пра яе, чула пра Папову Горку, што паблізу. А вось у сённяшняй маленькай дзятвы пытаюся пра Папову Горку, у адказ — недаўменне. Маўляў, чаму ж не ведаць выдатнае месца для лыжных прагулак. Здараецца, што на горцы, побач з ляском, праводзяцца ўзімку спаборніцтвы лыжнікаў. І ўсё. А якраз жа тут, у прыхаваным ляску і часам кар'еры, захаваны ахвяры верасня 1941 года. Гэта адно з першых месцаў масавых рэзтрэлаў мірных жыхароў на беларускай зямлі. Вось прыклад, які б не грэх гісторыкам ва ўсе падручнікі ўвесці. Асабліва побач з тымі навамодвеэнымі тэзісамі, высновамі, калі юнага чытача, вучня старанецца пераканаць, што пачатак фашысцкім масавым рэпрэсіям паклала ўзнікненне партызанскага супраціўлення. У верасні, калі гітлераўцы разам з паліцаямі акружылі мястэчка (тады напалову яўрэйскае) Пухавічы, партызаны яшчэ толькі невялікімі групкамі ў лесе хаваліся, зброю збіралі. А немцы ўжо паспешліва выганялі з дамоў яўрэйскія сем'і. Напачатку ўсіх сабралі ў былым доме адпачынку ля Маркаўшчызны. Людзей некалькі дзён не кармілі, нават вады не давалі. Многія гублялі розум, канчалі жыццё самагубствам. Калі хто з блізкіх вёсак Блонь, Зацітава Слабада, з самой Маркаўшчызны, з самых Пухавіч спрабаваў перадаць вязням кавалак хлеба, нават наблізіцца да пабудоў, якія ў імгненне вока ператвараліся ў гета, фашысты ладзілі самае страшнае, што можна ўявіць. А пасля калону вязняў вывелі з дому адпачынку, з гета, павялі да Паповай Горкі. Людзей скідвалі ў роў, немаўлят кідалі жывымі, відаць, эканомілі патроны...

Такая вось гісторыя ў ваколіц Зацітавай Слабады.

Такая вось гісторыя ў Зацітавай Слабады.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Заканчэнне.

Пачатак у №№ 4—6.

УСПАМІНАЙМА ПРА IX!

# ПАЭТЫЧНАЯ ЗОРКА ЕЎДАКІІ ЛОСЬ

Слава была крылатай, хараство жаночае пераможнае. Жыццё абяцала ўсё, чаго толькі можа пажадаць жанчына...

**Мой князь Алег**
**Мой княжыч Дзмітрый,**
**А я — княгіня Еўдакея...**

У такім арэоле прамільгнула паэтычная зорка Еўдакіі Лось. І згасла — у самым зеніце.

Лірыка Еўдакіі Лось не была пакаёвай лірыкай з уздыхамі і млявымі — у гліняных вазонах — кветкамі. Яе вытокі пачыналіся з любові і адданасці— найперш — свайму народу, роднай беларускай зямлі, Радзіме.

**Ах, Беларусь, мая ты доля,**
**Мая сляза і пацалунак,**
**Маё рунеючае поле,**
**Мой песнямі набіты клунак.**
**Імя тваё дае мне сілы,**
**Хоць не хвалюся я табою —**
**Як пацалункам самым мілым,**
**Як самай горкаю слязою.**

Такі выток быў, так лілася паэтычная ручаіна праз старонкі самай першай кніжкі Еўдакіі Лось "Людзі добрыя".

Хто ж яны былі — тыя людзі? А ўсё нашы добрыя знаёмыя. І партызан, які аддаў жыццё за волю і шчасце роднае зямлі. І салігорскі шахцёр, што спусціўся ў шахту, каб здабыць і адарыць багаццем яе палеткі. І маладая маці, што схілілася над калыскай свайго першынца-птушаняці і гушкае-спявае яму на сон калыханку.

Прыпамінаю, як некалі (Божа, як усё мінаецца!) у нашым лясным Доме творчасці Каралішчавічы — яшчэ Дуся Лось была маладой пачынаючай паэткай — як усхвалявана і захоплена чытаў яе паэтычную падборку — толькі з газетнай паласы "ЛіМ"а — славуты наш крытык Рыгор Бярозкін. Гэта было шчасце назіраць і чуць, як адзін талент радуецца і цешыцца другім талентам.

Еўдакіі Лось — праз усё яе творчае жыццё — пісалася лёгка і плённа ("Сёння зранку напісала кошык вершаў", — смеючыся, казала яна ў тых жа грыбных лясных Каралішчавічах). Таму і нараджаліся адна за другой новыя кнігі. Адна за другой...

Шчаслівую здольнасць меў, можа, і не заўсёды роўны голас, безумоўна, адметнага самабытнага даравання Еўдакіі Лось. Ён здольны быў "высякаць іскру", кранаць людскія сэрцы. На гэтай шчымлівай ноце ён і абарваўся...

**За пікамі густога частаколу,**
**За слепатой бальнічнага акна**
**Шчымлівую сваю адкрыла школу**
**Далёкая, далёкая вясна.**
**Я вобраз дарагі яе малюю**
**У трохі хмельным ад лякарстваў сне.**
**Адзінае дыктатаркі, якую**
**Жывое сэрца хваліць — не кляне...**
**Адзінае, далёкая, як горад,**
**За агароджай дыхае яна!..**
**Пішу ёй ліст балючы, ды не хворы,**
**За шыбамі высокага акна...**

...Паэты найчасцей паміраюць маладымі... Еўдакія Лось пражыла няпоўных сорак восем год. Немагчыма ўявіць яе сямідзесяцігадовай.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

## *МАСТАК-САМАВУК З ОРЦАЎ*



**Сяргей Волкаў жыве ў вёсцы Орцы Мёрскага раёна. Вёска маляўніча раскінулася ўздоўж берага аднайменнага возера. Месцы тут надзвычай прыгожыя і мілыя сэрцу. Яны крыніца творчага натхнення самадзейнага мастака. Умее Сяргей Сямёнавіч пасвойму ўбачыць і перадаць у карцінах прыгажосць роднага краю. І няхай часам не хапае яго работам прафесіяналізму, але цяпла і любові да родных мясцін нельга ў іх не заўважыць.**

**НА ЗДЫМКУ: самадзейны мастак з вёскі Орцы Сяргей ВОЛКАЎ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Парфіяновіч, актыўны ўдзельнік паўстання, сумна вядомы тым, што пасля свайго арышту не ўтрымаўся — выдаў Кастуся Каліноўскага, назваў яго апошні псеўданім і месца, дзе шукаць героя. У паўстанцкай чамарцы ў верхнім правым рагу стаіць Аўрэлій Бардскі (у зборніку недакладна — Барский), маладзейшы калега Каліноўскага з Пецярбургскага універсітэта...

У выніку мэтанакіраваных пошукаў удалося высветліць грамадскі статус і нават жыццёвыя пуцявіны яшчэ некаторых асоб са здымка.

Першы злева ў другім радзе — невысокі бландзін у студэнцкай, здаецца, тужурцы. Светлыя вочы праменяцца. Пад ледзь прыкметнымі вусікамі лёгкая ўсмешка. У зборніку "Революционный подъем..." ён пазначаны як Битов. Тыпова руская форма прозвішча. У пасылка на справу № 712 за 1863 год. Іншых Бішафаў або асоб з блізкімі прозвішчамі ў Алфавіце, ды і ўвогуле ў прагледжаных разнастайных архіўных поцыях, не знайшлося.

Звернемся да самой справы № 712, балазе яна захавалася, зберaглася ў поўным выглядзе да нашага часу. Там ёсць паказанні Карла Бішафа. Яму, паводле ўласных слоў, 21 год. Нарадзіўся ў Мінску. Бацька Эдуард Бішаф, сталы мінскі жыхар, прыбыў у Расію 27 гадоў таму. Карл скончыў вядомую на Беларусі і не толькі на Беларусі Слуцкую кальвінскую гімназію, вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, дзе вучобу не завяршыў з прычыны закрыцця універсітэта (як мы ведаем, універсітэт закрываўся ўвосень 1861 года ў сувязі са студэнцкімі хваляваннямі). Апынуўшыся за парогам альма-матэр, Бішаф без справы не бадзяўся — служыў гупарукі бацьку і пастару горада Мінска, і з гэтым пакончыць.

Тут якраз у выніку энергічных дзеянняў знакамітага жандара Лосева была раскрыта мінская рэвалюцыйная арганізацыя, робяцца шматлікія арышты ў яе структурах,ператрасаюцца сямейныя архівы. Пры вобысках знайшліся пісьмы, якія кампраметавалі Бішафа, давалі ў рукі ўлад дадатковы матэрыял супраць яго. Пісьмы адносіліся да пярэдадня паўстання, калі праз Мінск везлі некуды далёка — часцей за Урал — палітычных арыштантаў — удзельнікаў вызваленчага руху ў Польшчы. Мінчане шчыра спачувалі пакутнікам, як маглі, апекаваліся імі. Вядома, шмат энергіі аддавала гэтаму дачка Дуніна-Марцінкевіча Каміла, таксама знятая на гэтым здымку (між іншым, адзіная на ім жанчына).

Вось ліст ад 25 чэрвеня 1862 года, пасланы Бішафам з Гапо

# ЧАЦВЁРА СА СТАРОГА ЗДЫМКА



казальніку імёнаў у канцы зборніка чамусьці дабавілася яшчэ адна літарка — Битовт, прозвішча загучала неяк памясцоваму, нібы нават з нейкім старадаўнім літоўскім або ліцвінскім адценнем. Але фатограф Прушынскі назваў яго зусім інакш — па-замежнаму: Бишоф.

Мы правялі адпаведную разведку ў архівах Вільні і Мінска і цяпер можам зусім пэўна сказаць, што больш дакладным у даным выпадку быў сам фатограф.

Не будзем гаварыць, што давялося нямала пакорпацца ў старых паперах, перагарнуць не адзін дзесятак пыльных падшывак, сотні старонак, спісаных часам не лепшымі пісарскімі почыркамі. Падмогай была ранейшая "загартоўка" ў такой працы.

Першую падказку даў, вывеў на след архіўны Алфавіт асоб, датычных ("прикосновенных") да спраў Палітычнага аддзялення канцылярыі віленскага генерал-губернатара. Некалі напрактыкаваныя ў такіх рэчах чыноўнікі зрабілі гэты адмысловы штрафны кандуіт для сваёй зручнасці. Цяпер, калі прайшло ўжо шмат гадоў, ім карыстаюцца следапыты мінуўшчыны — гісторыкі. Ёсць там і патрэбнае нам прозвішча: 23-гадовы Карл Бішаф, прускі падданы, евангеліка-рэфармацкага веравызнання, былы студэнт Пецярбургскага універсітэта, вінаваты "в нахождении в шайке мятежников в Минской губернии и в давних враждебных чувствах [к] правительству, выраженных в перехваченных письмах". Адседзеў, як сказана ў адпаведнай графе, 6 месяцаў у Дзінабургскай крэпасці. І спавернёрам у памешчыкаў у Сенненскім павеце. У "мяцежніцкай шайцы" знаходзіўся з 28 красавіка да 7 мая 1863 года. Быў насільна (гэтая акалічнасць у паказаннях акцэнтавалася) узяты ў паўстанцы кіраўніком сенненскіх інсургентаў Жаброўскім і дабравольна (зноў сэнсавы акцэнт) здаўся ўладам пасля разбіцця пад Падбярэззем аб'яднанага атрада барысаўскіх і магілёўска-сенненскіх паўстанцаў.

Просценькая па сутнасці справа ўскладнялася хіба замежным падданствам вязня. Абвастраць адносіны з Прусіяй ніяк не выпадала. Прусакі ўжо насцярожана заварушыліся, гатовыя, калі што якое, заступіцца за свайго суродзіча. У жніўні 1863 года да царскіх уладаў звярнуўся прускі паверані ў Пецярбургу з просьбай паскорыць справу Бішафа (Bischoff), які знаходзіўся тады ў барысаўскай турме.

У снежні часовы ваенны губернатар Мінскай губерні пераслаў гэтую справу, атрыманую з Барысава, у Вільню вышэйшаму начальству. Мураўёў-вешальнік адразу ж загадаў даставіць у Вільню і самога Бішафа. Ім мусіў заняцца віленскі губернатар Панюцін, якому "дадзена асаблівае распараджэнне". Мураўёў разлічваў, відаць, на замежны вопыт Панюціна, набыты ім падчас паходу ў Аўстрыю ў 1849 годзе, пра што нагадвалі яго экзатычныя габсбургскія ўзнагароды. 16 студзеня 1864 года Панюцін асабіста дапытаў Бішафа. Уражанне ў яго склалася на карысць хлопца. Паколькі той ужо адседзеў 8 месяцаў за кратамі, меркавалася выпусціць яго на волю, аддаўшы на навічаў. Цяпер гэта Крупскі раён, а тады — Сенненскі павет. Дарэчы, тут непадалёку і Шчаўры, дзе жылі блізкія сябры Дуніна-Марцінкевіча. Не выключана, пісьменнік і памог Бішафу ўладкавацца гувернёрам на Сенненшчыне. Хаця, зрэшты, былі ў таго і іншыя сувязі. Тэкст ліста на рускай мове — не лепшы канцылярскі пераклад царскіх чыноўнікаў. Размова ў ім пра зняволеных, якіх правозілі на ўсход трактам Мінск—Барысаў—Крупкі—Талачын—Орша і гэтак далей. Дык вось Бішаф паведамляў: "Здесь напротив все везут и везут, в последней партии их было 11 и между ними помещик (у арыгінале, відаць, слова obywatel, якое можна чытаць як "грамадзянін") Адольф Малиновский, женатый на дочери генерала Дембинского, который говорил, что генерал недавно умер. О! Ежели это правда, то как же мы должны сильно над собой трудиться, чтобы отвагой и мужеством хотя бы отчасти заменить недостаток способных и благородных наших полководцев. Был здесь присланный из Минска жандарм Шатлев для взятия Константина Роговского, но это ему не удалось. В Борисове искал он также и меня. Один борисовский офицер Беляев донес, что я переодевался, носил пищу (вязням. — **Г. К.**) и какие-то письма..."

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: В. ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ з дачкой КАМІЛАЙ з групай мінчан, удзельнікаў вызваленчага руху. Пачатак 1863 года.**

**Фота А. ПРУШЫНСКАГА.**

**(Працяг будзе).**

## ЮБІЛЕЙ ДРАМАТУРГА



**Своеасаблівай творчай справаздачай стаў вечар з нагоды 50-годдзя беларускага драматурга, пісьменніка, кіраўніка гомельскай абласной пісьменніцкай арганізацыі Васіля ТКАЧОВА (на здымку ў цэнтры). У выкананні акцёраў гомельскага драматычнага, рагачоўскага народнага і студэнцкага Гомельскага універсітэта тэатраў былі паказаны ўрыўкі са спектакляў па п'есах В. Ткачова, прагучалі яго гумарэскі, маналогі. А дэкарацыяй на сцэне была вясковая хата з апошняга спектакля "Усміхаўся месяц белай вішні..."**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# ВЫДАННІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Пад такой назвай музеем гісторыі Магілёва была арганізавана выстава ў памяшканні Магілёўскай абласной бібліятэкі. Тут з фондаў музея прадстаўлены каля 100 арыгіналаў выданняў 50-х—90-х гадоў XX стагоддзя, выдадзеных беларусамі ў Англіі, ЗША, Італіі, Іспаніі, Германіі, Канадзе, Францыі. Гэта мастацкая, гістарычная, музыказнаўчая, рэлігійная літаратура, перыядычныя выданні "Беларус", "Царкоўны Пасланец", "Голас царквы", "Летапісец", "Божым шляхам", паштоўкі, канверты, буклеты выстаў, карты Беларусі, выдадзеныя нашымі суродзічамі, якія па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, але якія дбалі аб сваім укладзе ў навуку і развіццё культуры Беларусі. У фонды музея ўсе гэтыя выданні трапілі ад дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) В. Кіпеля (ЗША), Юркі Васілеўскага (ЗША), а. А. Надсона (Англія) і іншых. Уступную даведку да выставы напісаў В. Кіпель.

29 снежня 1997 года на адкрыццё выставы прыйшло шмат студэнтаў філфака і гістфака Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта, выкладчыкі, бібліятэчныя работнікі. Перад імі выступіў дэкан універсітэта, сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі Яраслаў Клімуць, які распавёў пра гісторыю беларускага друку ў замежжы, адзначыўшы, што беларусы за мяжой, незалежна ад палітычных поглядаў і рэлігійнай прыналежнасці, вялі актыўную грамадскую і выдавецкую дзейнасць. Дарэчы, і на выставе прадстаўлены беларускія рыма-каталіцкія, грэка-каталіцкія выданні і выданні Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ), пратэстантаў. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч падзяліўся сваімі ўспамінамі аб А. Салаўі, з якім разам вучыўся ў адной школе, якому чытаў свае першыя вершы. Акрамя вершаў на адкрыцці выставы, якую аформіў мастак Мікалай Цітоў, гучала беларуская музыка XVI—XVII стагоддзяў у выкананні на цымбалах студэнтаў Магілёўскага педфака Беларускай акадэміі музыкі А. Архіпавай і В. Дзядкоўскай.

Найбольшую цікавасць у гледачоў выклікалі кнігі Н. Арсенневай, У. Глыбіннага, Б. Рагулі, А. Салаўя, "Запісы" БІНіМа, С. Брагі, А. Багровіча, М. Куліковіча, падручнікі па беларускай мове для дапаможных канадскіх школ, зборнікі "Ля чужых берагоў" да ўгодкаў БНР і іншыя выданні.

Падобная выстава першая на Магілёўшчыне. Абласной бібліятэцы перададзена частка выданняў, якія меліся ў музеі ў некалькіх асобніках. Выстава працавала да сярэдзіны лютага 1998 года, каб усе, хто жадаў, мелі магчымасць, дзякуючы абласной бібліятэцы, не толькі пабачыць, але і пачытаць выданні беларускага замежжа.

**Ігар ПУШКІН.**

# ШЧАСЛІВЫ ЛЁС, САТКАНЫ З ПАРАДОКСАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

мым вялікім шчасцем у сваім жыцці і адным з яго парадоксаў. Усё ж такі ў нас больш прывычная з'ява, калі жонка саваё штодзённай хатняй працай, поўнай дробязных клопатаў, забяспечвае мужчыне магчымасць рабіць навуковую кар'еру. У гэтай жа сям'і ўсё дзялілася пароўну. І сёння Іна Дзмітрыеўна не перастае паўтараць: "Толькі дзякуючы свайму мужу і сваім бацькам, я здолела дасягнуць таго, што сёння маю, толькі дзякуючы ім".

З паступленнем у аспірантуру пачаліся бяссонныя ночы і паездкі з напрацаваным такімі начамі матэрыялам у Маскву да навуковага кіраўніка. Ён, слынны прафесар, доктар мастацтвазнаўства Аляксееў, чамусьці згадзіўся кіраваць яе дысертацыяй, што Іна Дзмітрыеўна расцэньвае зноў жа як адзін з самых дзіўных парадоксаў. Бо надта ж многа было канкурэнтаў з ліку сталічных маскоўскіх прэтэндэнтаў, сярод якіх маладая сціплая жанчына з Беларусі здавалася зусім непрыкметнай. Але прафесар паверыў у яе, і яна была яму ўдзячная за гэта. Праўда, тэму прыйшлося абраць зусім іншую, не такую, як хацелася: у той час якраз выйшла ўрадавая пастанова, паводле якой аспіранты з саюзных рэспублік павінны былі займацца даследаваннямі, звязанымі толькі з нацыянальнай культурай, а дакладней, прафесійнай культурай савецкага часу. Так і стаў тэмай яе даследаванняў беларускі фартэпіянны канцэрт. Дысертацыю абараніла паспяхова, але гэта не было сваё.

А потым здарылася так, што лёс звёў яе дзіўным чынам з людзьмі, якія ў той час узнімалі своеасаблівую цаліну ў беларускай навуцы: пачыналася навуковае асваенне беларускай традыцыйнай культуры. Акадэмія навук ладзіла першыя фальклорныя і этнаграфічныя экспедыцыі, у час якіх вывучалася аўтэнтычная спеўная культура. І неяк у размове Віктар Елатаў, тагачасны загадчык кафедры, прапанаваў: " А чаму б і табе не заняцца такой галіной, як традыцыйныя музычныя інструменты Беларусі, гэта ж зусім не даследаваная сфера". Спачатку прапанова падалася такой дзіўнай, што стала нават смешна. Яна, піяністка, будзе збіраць і вывучаць нейкія свістулькі! Але, паразмаўляўшы з калегамі, пачытаўшы тое-сёе, паназіраўшы за працай фалькларыстаў, вырашыла паехаць у першую экспедыцыю. І вось разам з Зінаідай Мажэйка і Тамарай Варфаламеевай упершыню апынулася на Палессі.

Першая экспедыцыя цалкам перавярнула яе жыццё. "Я нічога не разумела тады, — успамінае Іна Дзмітрыеўна, — ні гэтай мовы, бо там быў асаблівы унікальны палескі дыялект, ні ўсіх гэтых дыфтонгаў і іншых мудрагелістасцяў, я не ведала, як запісваць і пра што пытацца, але мяне ўразілі людзі! Тыя людзі, якія спявалі і гралі для нас. Само сабою, што аніякай музычнай адукацыі ў іх не было, яны ж простыя вяскоўцы, але якія яны былі таленавітыя, музыкальныя, пявучыя. І галоўнае, што мяне ўзрушыла, — як натуральна яны самавыяўляюцца ў мастацтве, у песні. Песня і яны — гэта нешта адзінае, гэта такая арганічная з'ява. Упершыню я адчула, што такое сапраўднае народнае светаадчуванне праз песню, праз эмацыянальныя адносіны. І зразумела, што павінна спасцігнуць усю гэтую філасофію, гэтую прыгажосць, увесь гэты невядомы для мяне свет аўтэнтычнага мастацтва. Вось так і "прыкіпела" да фальклору на ўсё астатняе жыццё".

Што ж тычыцца музычных інструментаў, дык ужо ў час першых экспедыцый Іна Дзмітрыеўна са здзіўленнем высветліла, што іх на Беларусі вялікае мноства. Яны бытавалі не толькі ў асяроддзі пастухоў, гучалі не толькі на вяселлях. Усё жыццё беларуса было менавіта працята гукамі цымбалаў, дудкі, жалейкі, чароткі, скрыпкі, акарыны, званкоў, паляўнічых рагоў і труб, разлівістых гармонікаў і іншых традыцыйных інструментаў. А колькі іх у дзіцячым асяроддзі! Ужо з пяці-шасці гадоў амаль кожны маленькі жыхар беларускай вёскі здолее сыграць нескладаную мелодыю на пішчалцы, шчылінай дудачцы, гліняным пеўніку ці берасцянцы. А зусім маленькія забаўляюцца жужалкай ці буркукай, рагулькай ці бразготкай, "кукарэкаюць" у лісточак травы ці дрэва. Цяга гэтая да музычнага, эстэтычнага аздаблення жыцця настолькі ўласцівая вяскоўцам з маленства, што любоў да музычных інструментаў і павага да іх стала характэрнай рысай беларусаў наогул. Такія вывады і зрабіла для сябе Іна Дзмітрыеўна падчас сваіх вандровак па Беларусі. Нядаўна падлічыла, што аб'ехала і пешкі абышла дзявяноста два раёны, а ў многіх была і неадназова. Няма на Беларусі такога музыкі, хто б не быў знаёмы з прафесарам Назінай. А яна ўсіх помніць не толькі па прозвішчу ці імені, але і па гуку яго ўласнага музычнага інструмента. Бо не толькі натавала і расшыфроўвала запісы выканання носьбітаў музычнай традыцыі, але і рабіла фонаархівы, грампласцінкі, тэле- і відэафільмы. І не будзе перабольшаннем, калі я скажу: яе праца ў гэтым накірунку — з'ява найвыдатнейшая для нашай нацыянальнай культуры, нашай гісторыі. Такія фільмы, як "Галасы зямлі маёй", "Грай, скрыпка, грай", "Цымбалістка", "Зачараваная дудка", "Труба і рог" раскрываюць для нас моц, глыбіню, прыгажосць і таленавітасць беларуса, яго непарыўную духоўную сувязь з роднай зямлёй, сваім родам, сваёй спадчынай. Яны абуджаюць у гледача зачараванасць гэтымі простымі, па-свойму нават наіўнымі людзьмі і гонар за тое, што яны ёсць, і падзяку за тое, што яны з намі. І надзею, што яны будуць заўжды.

Хоць наконт "заўжды" Іна Дзмітрыеўна аптымізму не падзяляе. Бо надта добра ведае, што носьбіты традыцыйнай культуры — гэта ў асноўным людзі сталага веку. Прыходзіць іх час, і пакідаюць яны гэтую зямлю, а разам з імі заціхае і скрыпка, замаўкаюць цымбалы. Перадаць жа сваё ўменне маладым часта не ўдаецца: ад'язджае моладзь з вёсак у вялікія гарады, і губляецца тая сувязь пакаленняў, што здольная забяспечыць непарыўнасць традыцый. Дзяржаўнай жа палітыкі па зберажэнню народнай спадчыны няма. З жалем канстатуе Іна Дзмітрыеўна гэты сумны факт і дадае: сёння ў яе ўласнай фанатэцы больш за пяць тысяч фоназапісаў з найгрышамі на розных народных беларускіх інструментах, але выдаць іх на кампактдыску ці хаця б грампласцінцы няма аніякай магчымасці. "Ва ўсім свеце цяпер назіраецца велізарная цікавасць да традыцыйнай культуры, — адзначае Іна Дзмітрыеўна, — і архіў Лондана, напрыклад, прапанаваў мне выдаць гэтыя запісы. Ды я лічу, што, хоць гэта праца і мая, але вынікі яе, узоры беларускага фальклору — гэта ж не мой уласны скарб, а скарб маёй краіны, і я чакаю, калі менавіта мая краіна гэта зразумее".

Трэба дадаць, што навуковыя сувязі ў Іны Назінай даволі шырокія. Толькі за апошнія гады яна прыняла ўдзел у многіх навуковых канферэнцый па этнамузыкалогіі, якія праводзіліся ў Англіі, Шатландыі, Чэхіі, Славакіі, Францыі, Аўстрыі, Польшчы і іншых краінах. І заўсёды на такіх форумах вялікую цікавасць выклікаюць беларускія народныя інструменты як унікальная з'ява народнай культуры. "У Заходняй Еўропе, — расказвае Іна Дзмітрыеўна, — наогул здзіўляюцца, як мы захавалі такія архаічныя інструменты. Бо там у большасці такія архаізмы ўжо зніклі. Нават на канферэнцыях прадметам навуковай гаворкі можа быць, напрыклад, дэкаратыўнае аздабленне прафесійнага музычнага інструмента. У нашай жа культуры яшчэ столькі непазнанага: тэмбры, функцыі, асаблівасці ўжывання таго ці іншага інструмента. Таму так важна, каб разам з носьбітамі гэтыя інструменты не зніклі з культурнай практыкі, з жыцця наогул. Неабходны дзяржаўныя намаганні па выразу такіх інструментаў, па арганізацыі працэсу навучання на іх, падтрымцы дзейнасці фальклорных калектываў. Неабходна стварэнне музеі народных інструментаў, каб людзі ведалі і чулі іх. У невялікай Англіі, напрыклад, шэсць спецыялізаваных музеяў народных інструментаў, дзе сабраны інструменты са ўсяго свету, а ў нас, акрамя калекцыі Акадэміі навук, нават няма музея беларускіх інструментаў".

Сама Іна Дзмітрыеўна мае цудоўную калекцыю беларускіх інструментаў, якую актыўна выкарыстоўвае ў навучальным працэсе Акадэміі музыкі. Яна вядзе заняткі па распрацаванай ёю праграме "Беларуская традыцыйная народна-інструментальная музычная культура" са студэнтамі кампазітарскай спецыялізацыі, тэарэтыкамі, музыказнаўцамі. Яна стварае сапраўдную школу вывучэння народнай культуры. Дзіўна, але студэнты вельмі цікавяцца незвычайнай для іх, выхаваных з маленства ў культуры пісьмовай музычнай традыцыі, сферай культуры. Ды і заняткі праходзяць вельмі ўжо незвычайна: тут разам з ведамі тэарэтычнымі даюцца і практычныя навыкі. А дзе яшчэ будучы кампазітар зможа сам зайграць на жалейцы ці акарыне! Іна Дзмітрыеўна займаецца таксама і з аспірантамі. Дзве з іх, Наталля Яканюк і Вольга Дадзіёмава, самі сталі ўжо вядомымі навукоўцамі, выкладаюць у Акадэміі музыкі і універсітэце культуры. Цяпер шэраг аспірантаў Іны Назінай займаецца непасрэдна праблемамі нацыянальнага інструментарыя. А ў Акадэміі музыкі пры непасрэдным удзеле Іны Дзмітрыеўны наладжана актыўная навуковая праца, праводзяцца канферэнцыі па праблемах народнага мастацтва. Напрыклад, навуковыя чытанні, прысвечаныя памяці выдатнага музыказнаўцы Лідзіі Мухарынскай, будуць праводзіцца па вясне ўжо шосты раз.

Арганізаваны апошнім часам у акадэміі і кабінет народнай музыкі. Няхай у маленькім пакойчыку, няхай з дапаманымі магнітафонамі, але ўсё ж гэта крок. Крок да спасціжэння маладымі музыкантамі сваіх нацыянальных каранёў, без якіх музыкант наогул не адбудзецца. Затое тут, у кабінеце, сотні аўдыёкасет Іны Назінай з запісамі беларускіх музыкаў, большасці з якіх ужо даўно і на свеце няма. Затое тут ёсць выдатныя кнігі, у якіх — увесь шматгадовы вопыт. Гэта двухтомнік "Беларускія народныя музычныя інструменты" і маленькая прыгожая кніжачка з такой жа назвай, і грунтоўная праца, выдадзеная Акадэміяй навук "Народныя музычныя інструменты і інструментальная музыка", а таксама том з гэтай жа серыі "Жаніцьба Цярэшкі" (сумесна з Л. Салавей). Праслухаць і ўбачыць тут студэнты могуць і адзіную грампласцінку, якую ўдалося калісьці выдаць разам з Зінаідай Мажэйка па матэрыялах фальклору Палесся.

Але сапраўдны навукоўца заўсёды перапоўнены новымі ідэямі, новымі планамі. Так што юбілей — гэта зусім не падстава падводзіць вынікі, гэта, па думку Іны Назінай, повад, каб распланаваць усю наступную работу, каб паспець выканаць. І, гледзячы на яе, энергічную, працавітую, аптымістку ў жыцці, верыш: усё задуманае будзе зроблена. Колькі гадоў я ўжо ведаю Іну Дзмітрыеўну, столькі і не перастаю здзіўляцца цудоўнай акалічнасці: мне здаецца, што з гадамі яна толькі маладзее. А яе шчаслівы лёс складзся хутчэй насуперак, чым дзякуючы абставінам. Такі вось парадокс.

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ.**

ТЭАТР

# ХТО ТЫ, ІВАН СВІТАННІК?

У Слонімскім драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля для дзяцей "Іван Світаннік" па п'есе Галіны Каржанеўскай. Усе казачныя падзеі ў ім адбываюцца ў тыя часы, калі звяры і птушкі ўмелі размаўляць, калі дапамагалі людзям мячы-самасекі ды лапці-самаскокі. Жылі-былі тады тры браты Іван Вячорнік, Іван Паўночнік і Іван Світаннік. Пайшлі яны ў свет шукаць чароўную дудку. Шмат прыгод было на іх шляху. Толькі дзякуючы малодшаму брату Івану Світанніку, удалося знайсці чароўную дудку і вызваліць з палаца Кашчэя прыгожую дачку Касю-красуню.



Ролю Касі-красуні выконвае артыстка Наталля Шугай. Гэта адзіная жаночая роля ў спектаклі. Але артыстка ўдала стварыла вобраз беларускай прыгажуні, якая спадабаецца дзецям.

Братоў Іванаў Вячорніка, Паўночніка і Світанніка іграюць артысты Сяргей Фурса, Аляксандр Шалахонаў і Васіль Свяец. Дарэчы, Васіль Свяец выконвае не толькі галоўную ролю ў спектаклі, але з'яўляецца яшчэ і рэжысёрам-пастаноўшчыкам гэтага спектакля.

Вобраз бацькі — дэбют Барыса Кучынскага. Калі на першы раз не ўсё атрымалася ў стварэнні вобраза гэтага героя, дык музычнае афармленне Барыса Кучынскага заслугоўвае ўвагі. Спектакль ён аздобіў добрай музыкай.

У казцы "Іван Світаннік" ёсць толькі адзін адмоўны герой — гэта Кашчэй, ролю якога сыграў артыст Уладзімір Навумік. Кашчэй у яго выкананні атрымаўся хітрым і смешнаватым дзядком.

Новая прэм'ера на сцэне Слонімскага драмтэатра зацікавіць і ў бліжэйшы час парадуе юных гледачоў.

**НА ЗДЫМКУ:** сцэна са спектакля "Іван Світаннік".

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ЖЫЦЦЁ Ў ПЕСНІ

Сто гадоў таму ў Мінску нарадзілася дзяўчынка Ірма, якой было наканавана стаць вядомай выканаўцай песень народаў свету. Дачка латышоў, народжаная на беларускай зямлі, Ірма Яўнзем стала "сваёй" для многіх народаў. Бо яна спявала на 63 мовах каля 5 тысяч песень. Але першымі былі латышскія й беларускія народныя песні. Іх дзяўчынка развучвала яшчэ ў ранім дзяцінстве, спявала з сяброўкамі і пад цытру, калі ў бацькоўскім доме збіраліся суайчыннікі — латышы. І з такіх сустрэч пачынаўся талент І. Яўнзем. Потым былі канцэрты перад самай рознай аўдыторыяй: сяляне, рабочыя, салдаты, якія ішлі на фронт... Для кожнага спявачка знаходзіла блізкія яму тэмы, інтанацыі, нават адлюстраванне жыццёвых прынцыпаў.

І. Яўнзем стала добрым прыкладам і для нашых суайчыннікаў, якія ў 20-я — 30-я гады з "вялікай сцэны" чулі свае, родныя песні, якія дагэтуль гучалі хіба толькі пад саламянымі стрэхамі вясковых хатак. Усё гэтае надавала людзям гонар за свой народ, за сваю культуру, музычную спадчыну. Нездарма спявачка прадстаўляла песенную культуру народаў СССР за межамі краіны. І адна з першых атрымала званне заслужанай артысткі БССР і народнай артысткі РСФСР.

Не толькі таленавітай спявачкай, але й выдатным педагогам была Ірма Яўнзем. Яна выкладала ў многіх пачаткоўцаў, якія потым сталі гонарам нацыі. Сярод іх — заслужаная артыстка Беларусі Вольга Шутава.

Пра ўсё гэта ішла размова на вечарыне, прымеркаванай да 100-годдзя І. Яўнзем, якая ладзілася таварыствам "Беларусь—Латвія" ў Доме дружбы. Вядучы, пісьменнік Анатоль Вярцінскі, і старшыня таварыства, пісьменнік Сяргей Панізьнік, расказалі пра жыццёвы і творчы шлях колісь слыннай артысткі.

Добрым аздабленнем сустрэчы стаў дакументальны фільм пра І. Яўнзем і выступленне аўтара сцэнарыя Уладзіміра Мехава. А Сяргей Грахоўскі не толькі расказаў пра гады шырокай папулярнасці спявачкі, але й паразважаў пра сучасную музычную культуру, пра сучасных "зорак".

Выступілі й маленькія "зорачкі" — дзяўчынкі з СШ № 11 г. Мінска, якія выканалі латышскія (у тым ліку — і на мове арыгінала!), беларускія песні. Слухаеш дзяцей і цешышся! Пакуль народныя песні спявае моладзь, жыцьме й народ.

Мы, пэўна, не ўсведамляем да канца, які подзвіг здзейсніла гэтая Жанчына. Таму і не ўшанаваная належна. У горадзе, дзе яна нарадзілася (у раёне цяперашняй вуліцы Свярдлова), няма нават мемарыяльнай дошкі. Не кажучы ўжо пра вуліцу. (Вось жа ёсць вуліца імя В. Кнорына, які сцвярджаў, што беларусаў як нацыі няма, а ёсць толькі дыялект рускай мовы, які трэба зжыць). І. Яўнзем паказала беларусам і свету нашую адметную культуру, усё жыццё цікавілася нашай краінай і мастацтвам, — і пра яе няма ў Мінску ніякай згадкі. Зрэшты, усё можа быць наперадзе — хаця й са спазненнем, але шчыра.

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ-ПІРОГ, намеснік старшыні таварыства "Беларусь—Латвія".**

## ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

***Радыёстанцыя "Беларусь" паведамляе, што сёлета жыхары еўрапейскіх краін могуць слухаць нас штодзённа ад 5-й да 7-й гадзіны паводле грынвіцкага часу і ад 20-й да 22-й гадзіны (таксама паводле грынвіцкага часу) на частотах 1170, 7105 і 7210 кілагерц. У нашых штодзённых праграмах вы можаце пачуць весткі з Бацькаўшчыны, каментарыі і гутаркі на актуальныя тэмы, інтэрв'ю, рэпартажы, нарысы, у якіх распавядаецца пра розныя аспекты жыцця Беларусі. Знаёмім і з музычнымі навінамі. Нашы перадачы гучаць на беларускай, рускай і нямецкай мовах. Мы рады таксама паведаміць, што сёлета радыёстанцыя "Беларусь" распачала вяшчанне на англійскай мове. Калі ў вас ёсць якія-небудзь пытанні, пажаданні, пішыце нам на адрас: Рэспубліка Беларусь, 220807, Мінск, вуліца Чырвоная, 4, радыёстанцыя "Беларусь". Рэдактар англійскай праграмы — Ірына Палажэнцава (тэлефон: 172-39 58 31, факс: 172-36 66 43).***

ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

# ЯВАР І КАЛІНА

*Словы Я. КУПАЛЫ Музыка Ю. СЕМЯНЯКІ*




Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
У сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым.

Чуецца музыка дзіўная
У повесцях сонных імшараў...
Цешыцца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 1 832 экз. Індэкс 63854. Зак. 245. Падпісана да друку 16. 2. 1998 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.